

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

4 ЛЮТАГА 2000г. № 5/4037 КОШТ 65 РУБ.







Род Янкоўскіх.

Фота А. ШАБЛЮКА.

# Сам-насам з часам...

## Расціславу ЯНКОЎСКАМУ — 70

Тэатр пачынаецца з Акцёра. Два акцёры паслалі дыванок — і ўзнік тэатр. Прасветленыя твары, пранікнёныя словы, жэсты, міміка — іншага, здаецца, і не трэба. Для цуду...

5 лютага Акцёру Расціславу Янкоўскаму — народнаму артысту СССР і Рэспублікі Беларусь, уладальніку медаля Ф. Скарыны — споўніцца 70 гадоў. "Пакуль яшчэ не рассыпаўся, жыву і працую, дзякуй Богу, даволі актыўна", — заўважае юбіляр. Ягоная праўда. Напрыклад, у спектаклі "Гамлет", што ідзе цяпер на сцэне Рускага тэатра (у Рускім артыст працуе з 1957 года) Р. Янкоўскі адначасова ўвасабляе як цынічнага забойцу Клаўдзія, так і бездапаможную Здань, вытрымліваючы тэмп спектакля не горш за маладых акцёраў (самы знакаміты шэкспіраўскі персанаж у выкананні Р. Янкоўскага — Макбет).

Роляў было сыграна шмат. І не толькі ў тэатры: з 1958 года Р. Янкоўскі здымаецца ў кіно. І У. Корш-Саблін ("Чырвонае лісце"), і С. Бандарчук ("Ватэрлоо"), і У. Крыштафовіч ("Рабро Адама") — здымалі Янкоўскага. Найноўшая яго роля ў кіно — Паклоннік у стужцы В. Дудзіна "Тры жанчыны і мужчына". Акрамя таго, ужо шэсць гадоў Янкоўскі з'яўляецца прэзідэнтам кінафестывалю краін СНД і Балтыі "Лістапад".

5 лютага юбіляр чакае гасцей у Рускім тэатры. Юбілейная вечарына мусіць стаць сапраўдным монаспектаклем. Акцёр, народны артыст Расціслаў Янкоўскі застанецца "Сам-насам з часам"...



# КОЛА ДЗЁН

***У канцы мінулага тыдня споўнілася 10 гадоў з часу прыняцця Вярхоўным Саветам Беларусі (яшчэ БССР) Закона аб мовах, які ўпершыню надаў беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай. Гэтая гістарычная падзея была ўрачыста адзначана сталічнай грамадскасцю (без прысутнасці афіцыйных асоб) у тэатральнай зале пад Чырвоным касцёлам...***

***І акурат тады ж па расійскім ТБ быў паказаны сюжэт з Украіны — пра стан аховы здароўя ў нашай паўднёвай суседкі. Карэспандэнт гутарыў з рознымі людзьмі ў Кіеве — з намеснікам міністра, з урачамі, медсёстрамі, школьнікамі, студэнтамі, салдатамі. І адказы літаральна ўсіх сваіх рэспандэнтаў ён перакладаў на рускую мову, бо ўсе яны (да аднаго!) размаўлялі па-ўкраінску! Вось так! А дзесяць гадоў назад моўная сітуацыя ў сталіцы Украіны была прыкладна такой жа, як і ў Мінску: у нас мала хто гаварыў па-беларуску, там — мала хто па-ўкраінску. За 10 гадоў незалежнасці сітуацыя ТАМ змянілася карэнным чынам: Кіеў і ў моўных адносінах стаў сталіцай Украіны. А ў нас?***

### ДЫНАМІКА ТЫДНЯ

У друку апублікавана дыяграма ацэнкі эканамічнай сітуацыі ў краіне грамадзянамі Беларусі. Яна аднaзначна сведчыць: жыццё наша за апошнія тры гады не стала, на жаль, ні лепшым, ні весялейшым. На пытанне: "Лепш ці горш сталі вы жыць сёлета?" У 1997 годзе станоўча адказалі 32,7 працэнта апытаных, адмоўна — 38,1 працэнта. Праз год гэтая суадносіна стала такою: 22,9 і 46,0. А яшчэ праз год, у 1999 годзе, усяго толькі 8,5 працэнта апытаных сказалі, што жыццё іх палепшылася, затое тых, жыццё якіх пагоршылася, стала ажно 67,4 працэнта. Красамоўная дынаміка, ці не праўда? Пасля гэтага цяжка верыць афіцыйным паказчыкам нашага эканамічнага росту...

### АДСТАЎКА ТЫДНЯ

Паводле звестак БелаПАН, Іван Каратчэня падаў у адстаўку з пасады першага намесніка выканаўчага сакратара СНД. Чым выклікана гэтае рашэнне, не паведамляецца. Як вядома, на кіруючыя пасады ў вышэйшых эшалонах улады ў СНД прыйшлі новыя людзі — У. Пуцін і П. Барадзін. Можа, І. Каратчэня адчуў, што "не сыдзецца з імі характарамі"? А мо перакапаўся ўрэшце ў бесперспектыўнасці намаганняў зрабіць гэтую міждзяржаўную структуру дзейснай і карыснай, дзеля чаго ён прыкладаў столькі намаганняў? А мо і першае, і другое разам? Гэта вядома хіба самому І. Каратчэню...

### НЕАДПАВЕДНАСЦЬ ТЫДНЯ

Сёлетні люты не пытаецца ў нас, ці мы цёпла абуты. Апошні зімовы месяц пачаўся з адлігі. У Брэсце, скажам, каторы дзень тэмпература — плюс 5-6 градусаў. Цёпла і на ўсходзе — у Магілёве — і Віцебску. Паўсюль мароз здае свае пазіцыі. Затое, што стала ўжо нашай традыцыяй, узраслі цэны. Вараная каўбаса пераваліла за 1500 рублёў за кілаграм, яйкі сталі каштаваць амаль 500, тварог — больш за 1000 рублёў, свініна — пад 1000, а ялавічына — пад 800 рублёў. З 1 лютага кошт аднаго кілавата электраэнергіі падняўся да 1,8 рубля. Ходзяць чуткі, што неўзабаве зноў падаражэе праезд у грамадскім транспарце. Карацей кажучы, мароз — уніз, а цэны — уверх...

### ЗАКАВЫКА ТЫДНЯ

Прэс-служба Палаты прадстаўнікоў НС РБ распаўсюдзіла паведамленне аб прывітанні старшыні Вярхоўнай Рады Украіны А. Ткачэнкі на адрас А. Малафеева і П. Шыпука ў сувязі з абменам ратыфікацыйнымі граматамі дагавора аб стварэнні Саюза Расіі і Беларусі паміж У. Пуціным і А. Лукашэнкам. І ўсё было б нармальна, калі б не адна, як кажуць, закавыка. Справа ў тым, што А. Ткачэнка ўжо не старшыня Вярхоўнай Рады Украіны. Ён зняты з гэтай пасады правай парламенцкай большасцю. Хоць, праўда, учэпіста трымаецца за яе...

### ЛАСКА ТЫДНЯ

"Газпрам" знізіў кошт газу, які экспартуецца ў Беларусь, з 30 да 26,9 долара за тысячу кубічных метраў. "Інтэрфакс" паведамляе, што беларускі бок спадзяецца і на далейшае зніжэнне цаны на газ, настойвае на тым, каб кошт яго быў такі ж, як у суседніх з Беларуссю абласцях Расіі — Смаленскай, Пскоўскай і Бранскай. У паведамленні агенцтва гаворыцца, што дамоўленасць аб зніжэнні цаны дасягнута ў рамках рэалізацыі дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. З аднаго боку, навіна — радуе. З другога, выклікае і сумненне, а найперш трывогу: каб жа гэтая ласка не абярнулася для нас куды большымі стратамі. Маецца на ўвазе, вядома ж, незалежнасць і суверэнітэт краіны...

### ВЫСНОВА ТЫДНЯ

1 лютага Б. Ельцыну споўнілася 69 гадоў. У гэты дзень па НТБ быў паказаны фільм Бі-Бі-Сі "Цар Барыс", а пасля праграма Я. Кісялёва "Голас народа", прысвечаная абмеркаванню гэтага фільма. Абмеркаванне звялося не так да ацэнкі фільма, як да ацэнкі дзейнасці Б. Ельцына і яго самога як чалавека і прэзідэнта. Ацэнкі гэтыя былі палярныя, аднак і тыя, і другія не пакідалі ўдзельнікаў (і гледачоў) абыякавымі. Запомнілася выказванне вядомага журналіста і ў пачатку 90-х гадоў заўзятага прыхільніка першага расійскага прэзідэнта П. Вашчанава: "Ельцын — гэта чалавек, з-за якога я пазбавіўся ілюзій, але не набыў веры". Цікава разважаў пра эпоху Ельцына і рабіў надзвычай крытычныя, негатыўныя высновы вядомы гісторык Ю. Афанасьеў, сцвярджаючы, што Расія за апошнія дзесяць гадоў прабегла па пякельным крузе, вярнуўшыся на зыходныя пазіцыі 1991 года. Міжволі думалася: а ці не гэтаксама можна думаць і ацэньваць здабыткі і страты нашага шляху будаўніцтва новага жыцця і мы?

### ЗАБАРОНА ТЫДНЯ

Лімаўскі чытач, напэўна, чуў пра выдадзены падпольнай арганізацыяй "Нацыянальны саюз адзінства Літвы" "Каляндар літоўца", у якім многія тэрыторыі Беларусі, Расіі і Польшчы пазначаны як "часова акупаваныя этнічныя землі Літвы". Гэта выклікала пратэсты названых суседніх дзяржаў. У выніку Генеральная пракуратура і Дэпартамент дзяржбяспекі Літвы забаранілі да адпаведнага рашэння суда продаж "Календара літоўца". Як кажуць, справядлівасць перамагла. Аднак жа прыкрасць на душы засталася. Асабліва балюча ўсё гэта нам, беларусам, этнічная тэрыторыя якіх сапраўды была ў свой час абкарнана з усіх чатырох бакоў...

### ДЗІКУНСТВА ТЫДНЯ

Праз два дні пасля пахавання, калі газеты яшчэ публікавалі некралогі, на Маскоўскіх могілках у Мінску была абрабавана магіла алімпійскай чэмпіёнкі Тацццяны Самусенкі. Былі ўкрадзены найбольш дарагія вянкі і карзіны з кветкамі, зрэзаны стужкі і штучныя кветкі і г. д. Факт гэты прыцягнуў увагу грамадскасці і друку, тым больш, што ён, на жаль, не адзінкавы: такое здараецца досыць часта і практычна на ўсіх гарадскіх могілках. Брыдка і ганебна ад усяго гэтага. Да чаго мы дажыліся? Чаму ператвараемся ў дзікуноў? Слушна зўважае на гэты конт "Белорусская деловая газета", якая таксама паведаміла пра факт апаганення магілы чэмпіёнкі: "І не называйце магільных зладзюганаў вандаламі. Не трэба зневажаць памяць старажытнага народа, які вельмі пашанотна адносіўся і да сваіх, і да чужых памерлых". Што праўда, то праўда! Гэта не вандалы, а акурат дзікуны...

---

ВІНШУЕМ!

# Лаўрэаты літаратурных прэмій



27 студзеня адбылося чарговае пасяджэнне рады Саюза беларускіх пісьменнікаў. Разглядаліся пытанні аб вылучэнні на Дзяржаўную і літаратурныя прэміі СБП. Прэмію імя Івана Мележа атрымаў **Леанід Левановіч** за раман "Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста". Прэмія імя Аркадзя Куляшова прысуджана **Максіму Лужаніну** за паэтычныя творы, апублікаваныя на старонках часопісаў і іншых перыядычных выданняў у 1998 годзе. **Сяргей Панізнік** атрымаў прэмію імя Уладзіміра Калесніка за ідэю стварэння і падрыхтоўку серыі "Бацькаўшчына". Прэмія імя Янкі Маўра прысуджана **Аўяр'яну Дзержынскаму** за кнігу вершаў "Вернасць".

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

У сапраўднае свята паэзіі выліліся мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Аркадзя Моркаўкі. І на яго радзіме, у Пухавіцкім раёне, і ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў шмат гаварылася аб вершах А. Моркаўкі, яго мужным таленце, аб тым, што з гадамі не толькі не страцілася значэнне і вартасць яго паэзіі, а, наадварот, — яна стала больш запатрабаванай.

Прыемна, што ў мерапрыемствах прынялі ўдзел не толькі пісьменнікі Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Алесь Пісьмянкоў, Аляксей Рагуля, Навум Гальпяровіч, а і прадстаўнікі грамадскасці Пухавіцкага раёна, супрацоўнікі Камітэта мер і вагі, дзе доўгі час працаваў Аркадзь Андрэевіч, і Політэхнічнай акадэміі, якую ён скончыў.

●

Надоўга запомніцца ўсім тым, хто прыйшоў у мінулую пятніцу ў Дом літаратара, вечарына, прысвечаная 60-годдзю выдатнага беларускага паэта і празаіка Леаніда Дайнекі. Шмат дасціпнасці, добразычлівага гумару было ў выступленнях Генрыха Далідовіча, Раісы Баравіковай, Сяргея Законнікава, Генадзя Пашкова, Яўгена Каршукова, Валерыя Грышановіча і іншых. Творы юбіляра чыталі народныя артысты Беларусі Аляксандр Ткачонак і Вольга Клебановіч. Сцэну са спектакля "След ваўкалака" паказалі артысты народнага тэатра "Відарыс" з Барысава. Павіншаваць Леаніда Мартынавіча прыехалі і землякі з Магілёўшчыны. Цудоўным акордам свята стала выступленне вядомага ансамбля "Беларускія песняры".

●

Істотна ўзмацніліся творчыя сувязі нашай пісьменніцкай арганізацыі з беларускімі вайскоўцамі. Актыўна працуе ваенна-шэфская камісія на чале з Яўгенам Каршуковым. Вось і нядаўна яна з дапамогай аддзела па выхаваўчай рабоце Міністэрства абароны правяла ў сталічным Доме афіцэраў чытацкую канферэнцыю, прысвечаную 55-годдзю Вялікай Перамогі. Прысутных, а гэта былі курсанты ваенных вучылішчаў, воіны тэрміновай службы, вітаў намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч. Аб ролі літаратуры ў час Вялікай Айчыннай вайны, аб тым, як пісьменнікі ваеннага і пасляваенных пакаленняў услаўлялі гераічны подзвіг народа гаварылі Пятро Прыходзька, Алесь Савіцкі, Іван Скарынкін, Аляксей Слесарэнка. Вёў сустрэчу Анатоль Сульянаў.

●

27 студзеня рада Саюза беларускіх пісьменнікаў прыняла Заяву з нагоды беспадстаўных і абразлівых абвінавачванняў у адрас народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, якія прагучалі ў праграме Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі "Панарама" 15 студзеня.

**Н. К.**

# Заява
## рады Саюза беларускіх пісьменнікаў

У праграме Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі "Панарама" 15 студзеня гэтага года прагучалі беспадстаўныя, абразлівыя абвінавачванні ў адрас народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Лічым амаральнымі і недапушчальнымі развязны зняважлівы тон удзельнікаў перадачы ў адносінах да аднаго з выдатнейшых сыноў Бацькаўшчыны, чые творы перакладзены на ўсе развітыя мовы планеты, чый талент высока ацэнены ва ўсім свеце, чыё жыццё і дзейнасць забяспечваюць аўтарытэт Беларусі. Дзяржаўнае тэлебачанне па сваім прызначэнні ў грамадстве абавязана з дасведчанасцю і павагай ставіцца як да беларускай культуры ў цэлым, так і да кожнага яе сумленнага і славутага майстра, чаго, на вялікі жаль, мы не бачым апошнім часам.

У сувязі з адзначаным звяртаемся да ўсіх прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі краіны з заклікам абараняць маральны клімат грамадства, не дазваляць у прыватных дыскусіях і спрэчках апускацца да хлусні і зняваг, выкарыстоўваючы з гэтай мэтай сродкі масавай інфармацыі.

У XXI стагоддзе мы павінны ісці з павагай да думак кожнага чалавека, тым больш тых, па кім свет ведае нашу Беларусь.

*27 студзеня 2000 г.*
*г. Мінск*

ВЫСТАВЫ

# Адданы рэалізму

Пра Антона Стэфанавіча Бархаткова можна шчыра сказаць, што ён усё сваё доўгае васьмідзесяцігадовае жыццё быў адданы рэалістычнаму мастацтву. Беларуская прырода стала яго натхняльнай крыніцай. Мастак і цяпер гатовы ў любое надвор'е выехаць на эцюды. Такую любоў да беларускіх пейзажаў Антону Бархаткову, выхаванцу маскоўскай жывапіснай школы, прывіў выдатны мастак В. Бялыніцкі-Біруля. Дый невыпадкова, абодва яны родам з Магілёўскай вобласці, абодва жылі ў Маскве. Антон Стэфанавіч пазнаёміўся з Бялыніцкім-Бірулем хлапчуком у 1944 годзе, працаваў у яго творчай майстэрні ў Маскве і на дачы "Чайка", а ў 1947 годзе ездзіў разам з вядомым майстрам на эцюды ў Беларусь. Нездарма пры стварэнні музея Бялыніцкага-Бірулі ў Бялынічах Антон Стэфанавіч падарыў у экспазіцыю шмат сваіх твораў.

*На адкрыцці выставы*

На адкрыцці персанальнай выставы Антона Бархаткова ў Нацыянальнай мастацкай галерэі пры Саюзе мастакоў Беларусі мастацтвазнаўца Л. Бортнік назвала яго сапраўдным рэалістам рускай акадэмічнай школы. А. Бархаткоў скончыў Маскоўскую мастацкую вучэльню ў В. Крымава, Маскоўскі мастацкі інстытут імя В. Сурыкава ў С. Герасімава і Д. Мачальскага. Але пры гэтым ён праз усё XX стагоддзе пранёс захапленне краем, у якім нарадзіўся і прыгажосць якога кожны дзень натхняе яго на творчасць.

**Н. К.**

ІМПРЭЗЫ

# Граюць "спадчынныя куранты"!

Гераіня гэтай кніжкі нібыта сама просіцца на сцэну, і таму яшчэ сотню й сотню разоў зазнае цікавасць ды ўвагу публікі. Як, дарэчы, і яе аўтар: заслужаны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій, мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" Віктар Скорабагатаў.

Гераіня кніжкі — музыка. Даўняя. Але яе мы толькі цяпер пачынаем адкрываць, вывучаць, асэнсоўваць, успрымаць як сваю. Як забытую і скрадзеную ў гістарычнай калатнечы, ды раптам знойдзеную і вернутую, спадчыну, назбіраную некалькімі пакаленнямі нашых папярэднікаў, што жылі, гасцявалі, стваралі на гэтай зямлі.

Назва кніжкі — "Зайгралі спадчынныя куранты". І наш чытач ужо ведае сэнс гэтай прыгожай метафары. Бо роўна год таму, пасля прэзентацыі адметнай асветніцка-даследчай працы В. Скорабагатава ў сталічным Доме дружбы, мы пра ўсё расказалі. У тым ліку і пра дзівосны вобраз старога закінутага спадчыннага гадзінніка, які ўвасобіўся ў музыцы Станіслава Манюшкі, уражанага некалі ў далёкім дзяцінстве незвычайнай уласцівасцю сапсаванага механізму: раптам той заводзіўся, рухаліся стрэлкі, білі куранты...

Музыка "спадчынных курантаў" раз-пораз ажывае сёння ў філармонічных і радыёканцэртах, у фестывальных праграмах. А ў мінулую суботу яна зрабілася гераіняй утульнай сцэны Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьнiч", якім кіруе натхнёная асоба — Галіна Дзягілева і лёсам якога шчыра апякуецца ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, пробашч мінскага касцёла св. Сымона і Алены, дзе і месціцца гэты самабытны тэатр.

Імпрэзе "Зайгралі спадчынныя куранты", зладкаванай паводле кнігі В. Скорабагатава, папярэднічала адкрыццё выстаўкі надзвычай "цёплых" мастацкіх твораў, аўтары якіх — вядомая беларуская габеленшчыца Валянціна Бартлава-Маркавец ды яе малодшая калежанка Алена Зазуля. Затым перапоўненая зала вітала, зусім адпаведна жанру, Аднаго Акцёра



*На вернісажы: В. Бартлава-Маркавец і мастацтвазнавец Я. Шунейка.*

— Віктара Скорабагатава, які прапанаваў своеасаблівы экскурс у наша музычнае мінулае. Яго артыстычны захоплены аповед падтрымлівала музыка С. Манюшкі ды Н. Орды, М. Кл. Агінскага ды В. Казлоўскага, А. Г. Радзівіла ды старадаўніх ананімных аўтараў...

"Спадчынныя куранты" гралі дзякуючы піяністу Уладзіміру Дулаву, салістцы Нацыянальнага тэатра оперы Алене Бундзелевай, самому спадару Скорабагатаву ды нязменнаму канцэртмайстру ўсіх праграм "Беларускай Капэлы" Ганне Каржанеўскай. Гучалі таксама імёны тых, без чыёй пошукавай, даследчай, навуковай, перакладчыцкай працы "музыка спадчынных курантаў" не вярнулася б у наш культурны ўжытак: Вольга Дадзіёмава, Адам Мальдзіс, Уладзімір Мархель, Васіль Сёмуха... Дарэчы, спадар Сёмуха быў не толькі гледачом вечарыны: ён падзяліўся цікавымі назіраннямі, зробленымі падчас працы над перакладам гётэўскага лібрэта оперы Антонія Генрыка Радзівіла "Фауст", паказ якой адбыўся ў нашым Вялікім тэатры ўжо трэці раз.

Як для каго, а для мяне ўсцешнай навіною было паведамленне В. Скорабагатава пра падрыхтоўку другога выдання кнігі, якую ён



*Распавядае В.Скорабагатаў.*

дапрацоўвае з улікам пажаданняў спецыялістаў і ўласнага досведу, што ўвесь час папаўняецца новымі звесткамі, назіраннямі ды высновамі. "Зайгралі спадчынныя куранты" — і ператвараліся ў бібліяграфічную рэдкасць, так што ў нас, каму адрасу не пашанцавала набыць асобнік для сябе, будзе другі шанц. Кажу "ў нас", бо і сама гэтай кніжкі не маю...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ПРУПАСА*

# Рок-карона — у "Крыві"

У мінулую нядзелю прайшла традыцыйная, ужо шостая па ліку "Рок-каранацыя" — цырымонія ўзнагароджання беларускіх рок-гуртоў, асобных музыкаў, якія найбольш плённа і густоўна выявіліся ў айчыннай рокавай прасторы за 1999 год. У канцэртнай зале "Мінск", дзе ладзілася гэтае беларускае "Грэмі", яблыку не было дзе ўпасці — рок, у адрозненне ад дамарослай поп-музыкі, вольны і пераважна нацыянальны па змесце і форме, знаходзіцца якраз у росквіце.

Здаецца, галоўнай турботай арганізатараў "Рок-каранацыі" штогод з'яўляецца тое, як разнастаіць мерапрыемства. Напрыклад, летась гледачоў здзівілі ўдзелам "Песняроў". Сёлета, на жаль, анічога падобнага не было. Адно што вядучы Віталь Сямашка раз-пораз стараўся ўвесці ў вушы прысутным, што прозвішчы лаўрэатаў, якія вось-вось будуць агучаны, — таямніца для ўсіх. Маўляў, адмысловыя журналісцкія анкетаванні, паводле якіх вызначаюцца пераможцы, і прагназаванні не выключаюць сюрпрызаў. Аднак сенсацый не было. А вось новых намінацый і прызоў, навыдумляных самімі арганізатарамі, вядучым, фірмамі, выданнямі і радыёстанцыямі, было мноства.

За гісторыю "каранацыі" "рок-каралямі" станавіліся, чаргуючыся, то беларускамоўныя, то небе-



*Гурт "Крыві".*

ларускамоўныя гурты. Напрыклад, у папярэднія тры гады імі былі праігнараваўшы сёлетнюю "інаўгурацыю" "Ляпіс Трубяцкой", N.R.M., "Нейра Дзюбель". Цяпер — "Крыві", які надзвычай багата гастраляваў летась, прычым не толькі па радзіме, а па ўсёй Еўропе тыражуючы ўдала стылізаваны беларускі фальклор. Дагэтуль айчынныя фольк-гурты першынстваваў па завядзёнцы толькі ў, здавалася, створанай менавіта пад іх, намінацыі "Традыцыі і сучаснасць". "Крыві" дасталіся яшчэ некалькі намінацый: Вераніка Круглова другі год запар у спаборніцтве з Касяй Камоцкай стала "рок-князёўнай", а "кліпам года" названы кліп на песню "За туманам", зроблены Анатолем Вечарам.

"Песняй года" стаў "Паветраны шар" N.R.M., "Альбомам года" — "Кутрынкі і качулкі" "Нейра Дзюбеля", "Падзеяй года" — калектыўны кампакт "Святы вечар", "Адкрыццём года" — не зусім рокавы гурт "Экivoki" з самай "раскручанай" песенькай "Нравіцца, не нравіцца, спі, мая красавіца"...

Такім чынам, мы маем дастаткова, каб слухаць сваё!

**К. П.**

*Фота М. ПРУПАСА*

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Сустрэча з земляком

У мастацкай галерэі Ліды адкрыта выстава твораў Яна Кузміцкага, які зараз жыве ў Швецыі. Першае знаёмства з работамі мастака адбылося шэсць гадоў таму. На гэты раз творца прадставіў серыю карцін, і кожная з іх — аб прыгажосці жанчын. У кнізе наведвальнікаў галерэі з'явіліся ўдзячныя запісы. "Ян! Галоўнае быць самім сабою. Гармонія думак і душы — гэта асноўнае. Дзякуй за мастацтва!" Такі водгук пакінуў лідчанін Алесь Судар.

## На былым хутары Путраментаў

Прэм'ера песні "Цiхiм цёплым вечарам" адбылася ў клубе санаторыя-прафілакторыя "Вясёлка" Лідскага акцыянернага таварыства "Лакафарба". Твор гэты належыць рабочаму прадпрыемства, аматару мастацкай самадзейнасці Сяргею Ціхану, які на свой верш напісаў музыку. Дапамогу творцу аказаў мастацкі кіраўнік хору хімікаў Лех Пырскі.

Адметна, што прэзентацыя праходзіла там, дзе быў хутар бацькоў Ежы Путрамента, вядомага польскага паэта і сябра Максіма Танка. На думку мясцовых аматараў мастацкага слова ды краязнаўцаў, на будынку санаторыя варта было б адкрыць мемарыяльную дошку ў гонар чалавека, які жыў у тутэйшых ваколіцах і многае зрабіў для ўмацавання літаратурных стасункаў Польшчы і Беларусі. Такая акцыя была б годным ушанаваннем 90-годдзя з дня нараджэння знакамітага земляка, якое адзначаецца сёлета.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Часопіс для ўсіх

У абласным цэнтры пачаў выходзіць новы часопіс "Мир семьи". Галоўны рэдактар — літаратар і журналіст Віктар Кіеня. У матэрыялах першага нумара ўзнімаюцца многія праблемы: ліквідацыя наступстваў чарнобыльскай трагедыі, утрыманне і выхаванне дзяцей-сірот. Шэраг публікацый знаёміць са здаровым ладам жыцця, адпачынкам дзяцей Гомельшчыны ў Італіі. Дарэчы, частка накладу, дзе ёсць матэрыялы на італьянскай мове, адпраўлена на Апеніны. Новае выданне не выпускае з поля зроку культурніцкія пытанні. З рэдакцыяй актыўна супрацоўнічаюць пісьменнікі, навукоўцы, кіраўнікі дабрачынных арганізацый...

## Творы дэманструюць выкладчыкі

Дзесяць гадоў таму ў Гомелі адкрыўся філіял Мінскага мастацкага вучылішча. Цяпер гэта самастойная навучальная ўстанова з трыма аддзяленнямі: жывапісу, дызайну і скульптуры. Выкладаюць тут 14 педагогаў, 9 з якіх — сябры Саюза мастакоў, 2 — Саюза дызайнераў. Большасць выпускнікоў працуе ў мастацкіх школах вобласці, многія працягваюць вучобу... Да юбілею вучылішча яго педагогі падрыхтавалі экспазіцыю сваіх работ, якія выстаўлены ў абласным краязнаўчым музеі.

## Вучылішча добрых традыцый

Гомельскае ПТВ N35 чыгуначнага транспарту імя М. Лынькова — адно са старэйшых у Беларусі. Створана яно 77 гадоў таму, выпусціла тысячы высакакласных спецыялістаў. Вялікая ўвага надаецца тут культурнаму выхаванню моладзі. Днямі ў вучылішчы прайшла навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Аб сумеснай дзейнасці вучылішча і сям'і па духоўным і маральна-эстэтычным выхаванні". У ёй прынялі ўдзел педагогі, бацькі, навукоўцы, супрацоўнікі праваахоўчых органаў. У час работы канферэнцыі працавалі выставы тэхнічнай творчасці і малюнкаў.

## Канцэрт у шпіталі

Гомельскім народным хорам ветэранаў вайны і працы кіруе выкладчыца музычна-педагагічнага каледжа М. Дызелева. У рэпертуары калектыву, які мае ўжо саракагадовую гісторыю, — франтавыя і партызанскія песні, песні пра Беларусь. Чарговы канцэрт самадзейныя артысты далі ў шпіталі інвалідаў Вялікай Айчыннай.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Пра лёс мовы...

Закон аб мовах, прыняты 10 гадоў таму, адыграў у нашым грамадстве вялікую ролю, — сцвярджае старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны Валянцін Арлоў у сваім артыкуле "Закон і мова", які надрукаваны ў абласной газеце "Народнае слова". Аўтар прыводзіць дадзеныя апошняга перапісу насельніцтва, якія сведчаць, што на Віцебшчыне пражывае 82 працэнты беларусаў, з іх 84 працэнты лічаць беларускую мову роднай і 37 — дома размаўляюць менавіта на ёй. Без перабольшання можна сказаць, што за гэты час мільёны людзей больш зацікаўлена ацанілі сваю культурную спадчыну, праявілі заклапочанасць лёсам беларускай мовы, — адзначаецца ў артыкуле.

## "Беларускі кнігазбор" — у бібліятэцы

У абласной бібліятэцы адбылася прэзентацыя унікальнай кніжнай серыі "Беларускі кнігазбор". Перад чытачамі выступілі літаратары і навукоўцы. Паэт, дацэнт мясцовага дзяржуніверсітэта Анатоль Канапелька чытаў свае пераклады і балады Я. Баршчэўскага. Выкладчык універсітэта Віктар Таранеўскі расказаў пра сваю працу над перакладамі летапісаў, змешчаны ў адным з апошніх тамоў серыі — "Беларускія летапісы і хронікі". Краязнаўца Аркадзь Падлiпскi паведаміў, што працуе зараз над томам, прысвечаным вядомаму віцебскаму гісторыку Аляксею Сапунову.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Юбілей празаіка

28 студзеня споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага празаіка Леаніда Дайнекі. Родам ён з Клічаўшчыны, а таму ў бібліятэках раёна зараз праходзяць урачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя творчасці пісьменніка. Аматары знакамітых раманаў "Меч князя Вячкі", "След Ваўкалака", "Запомнім сябе маладымі", "Чалавек з брыльянтавым сэрцам", захапляючыся творчасцю пісьменніка, чакаюць ад яго новых твораў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*МІНШЧЫНА...*

## "Зямля і космас Язэпа Драздовіча"

Выстава пад такой назвай адкрылася ў гісторыка-культурным запаведніку "Заслаўе". На ёй прадстаўлены жывапісныя і графічныя творы мастака, інфармацыя аб яго шматграннай, у тым ліку і навуковай дзейнасці, сабраная супрацоўнікам музея Юрыем Малашам. Драздовіч, як вядома, не абмяжоўваўся адным мастацтвам, быў яшчэ гісторыкам, выкладчыкам, займаўся пытаннямі небазнаўства, тэорыяй руху планет.

**Н. К.**

## Юбілейная вечарына

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа прайшла вечарына, прысвечаная 80-годдзю аднаго са старэйшых беларускіх пісьменнікаў, лаўрэата прэміі імя Янкі Купалы Міколы Аўрамчыка. Павіншаваць юбіляра ва ўтульнай гасцёўні сабраліся пісьменнікі, вучоныя, вучні мінскіх школ, студэнты.**



**Доўгі час, з 1953 па 1980 год, Мікола Аўрамчык займаў пасаду рэдактара аддзела паэзіі ў часопісе "Маладосць". Словы віншавання ад работнікаў часопіса, сваё уласнае захапленне творчасцю пісьменніка выказалі галоўны рэдактар Генрых Далідовіч і яго намеснік Казімір Камейша.**

**Многія сучасныя паэты выйшлі "з-пад добрага крыла" Міколы Якаўлевіча. Пра той уклад, які ён зрабіў у фарміраванні паэтычнай школы, расказалі Уладзімір Паўлаў, Уладзімір Скарынкін Юрась Свірка і вядучы сустрэчы Іван Курбека.**

**Са шчырымі словамі прывітання ў адрас юбіляра выступіла дырэктар Коласаўскага музея Зінаіда Камароўская. З кветкамі на сустрэчу прыйшла і выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Бабруйскага СПТВ Іна Воспішчава.**

**Пра сваё знаёмства з Міколам Аўрамчыкам расказаў скульптар Эдуард Астаф'еў.**

**Сам юбіляр падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі пра сустрэчы з Якубам Коласам. Яшчэ ў канцы 30-х гадоў Пясняр, прачытаўшы верш "Адлёт жураўлёў" Міколы Аўрамчыка, "уручыў яму жураўлінае пяро". Пазней, у пасляваенныя гады, малады паэт бываў у гасцях у Коласавым доме. А пасля смерці гаспадара напісаў верш "У доме Якуба Коласа".**

**З музычнай праграмай на вечарыне выступілі ўдзельнікі фальклорнага ансамбля д/с N 266 г. Мінска.**

**Н. МАКРЫЦКАЯ**

*Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА*

## Ведаць азбуку званоў

**Мінула ўжо амаль пяць гадоў, як прайшоў у Мінску велікодны фестываль мастацтваў, падчас якога ўпершыню быў зладкаваны конкурс званароў. Гэта была дзівосная імпрэза: маладыя хлопцы па чарзе ўзнімаліся да святых бомаў, што на званіцы сталічнага Свята-Духава кафедральнага сабора, і над будзённым тлумам Нямігі разносіўся нябесны голас-перагуд... Нават выпадковыя прахожыя і турысты прыпынялі крок, зачараваныя адмысловым мастацтвам.**



**Мастацтвам?.. Можна, вядома, казаць і так. Але ў жыцці царкоўным гэта і прафесія. Прычым, сёння — вельмі патрэбная. Але досыць рэдкасная. Вось чаму і з'явілася першая школа званароў Мінскага епархіяльнага ўпраўлення. Адкрылі яе 26 студзеня пры царкве ў гонар абраза Божай Маці "Усіх Журботных Радасць". Да справы адраджэння звонавага майстэрства на Беларусі далучылася і знаная далёка за межамі нашай краіны фірма "Выдатнае ліццё". Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі асвяціў новыя званы і блаславіў тых, хто будзе вучыцца звонаваму мастацтву. Курс навучання разлічаны на 3—3,5 месяца.**

**С. ВЕТКА**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

ВЕЧАРЫНЫ

# "З імем Купалы — у сэрцы"

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы адзначыў 80-годдзе паэта, празаіка, перакладчыка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы Міколы Аўрамчыка. Імпрэзу наладзілі Міжнародны фонд Янкі Купалы, грамадскае аб'яднанне "Супрацоўніцтва дзелавых і творчых жанчын" сумесна з музеем Янкі Купалы.

Невыпадкова менавіта гасцінная зала Дома Купалы сабрала сяброў Міколы Аўрамчыка, прыхільнікаў яго таленту. Больш за паўстагоддзе доўжацца творчыя сувязі Міколы Якаўлевіча з музеем Песняра. Дарэчы, юбіляр можа прыгадаць вельмі цікавыя дэталі пра шматлікія сустрэчы з Купалам і Уладзіславай Францаўнай. Душэўная шчырасць спрыяе таму, што Мікола Аўрамчык надзвычай добра піша ўспаміны, словы пра сяброў. Уражваюць цеплынёй, жаданнем падзяліцца ўсім самым дарагім дзённікі "З імем Купалы — у сэрцы". Наогул у паэзію Аўрамчыка часта прыходзіць вобраз Янкі Купалы. Гэта вершы "Слова паэта", "У той дзень", "Ленінграду", "Вянкі Янку Купалу", "Вяртанне", "Універсітэцкі гарадок", "Дарожны надпіс каля Радашковіч", "Роднае", "Там, дзе Ленінскі праспект плыве..." і г.д. Верш "Вяртанне" напоўнены роздумам пра сувязь Купалы з роднай зямлёй, выкліканы ён вяртаннем урны з Купалавым прахам на Беларусь.

***Праязджаючы***
***паўстанкі і вакзалы,***
***Паравоз гудком абвесціць***
***праз палі***
***Беларусам,***
***што вяртаецца Купала,***
***Набліжаецца***
***да роднае зямлі.***

***І з усіх куткоў,***
***узяўшы кветкі ў рукі,***
***Выйдуць землякі***
***насустрач песняру...***
***Аж праз доўгіх дваццаць год***
***пасля разлукі***
***У абдымкі яго прыме***
***Беларусь.***





Сяброўскае слова юбіляру прамовілі Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі, Валянціна Куляшова, маладая паэтка Кацярына Мяшкова. Ад Саюза пісьменнікаў Беларусі выступіў Навум Гальпяровіч. Ад Саюза кампазітараў словы падзякі юбіляру гаварыў Ігар Лучанок. Сваімі музычнымі падарункамі павіншавалі Міколу Аўрамчыка заслужаная артыстка Беларусі Тацццяна Мархель, бард Эдуард Акулін. Ад Міжнароднага фонду Янкі Купалы цёплыя словы выказаў прэзідэнт фонду Вячаслаў Рагойша, Алена Адзінцова і Вольга Кавалёнка віталі юбіляра ад грамадскай арганізацыі "Супрацоўніцтва дзелавых і творчых жанчын". Словы ўдзячнасці за сувязь з музеем Песняра, за адданасць Купалу сказала дырэктар музея Жанна Дапкюнас, з рук якой атрымаў Мікола Якаўлевіч памятныя сувеніры.

У купалаўскіх літаратурных сустрэчах ёсць свая асаблівасць, ні адна з іх не праходзіць без Купалавага слова. Гучала яно з вуснаў акцёра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Віктара Манаева. Песні "Спадчына", "Явар і каліна", "Квітней, Беларусь" на словы Янкі Купалы выканала салістка студыі вакалу Палаца прафсаюзаў Наталля Ціханавец.

Бываюць людзі вельмі шчодрага ўнутранага гарэння, ад якога робіцца цяплей і святлей на душы. Менавіта такім чалавекам і з'яўляецца Мікола Аўрамчык. Нельга спыніць бег плыні нашага сённяшняга жыцця — мы ўжо амаль што ўваходзім у дваццаць першае стагоддзе і трэцяе тысячагоддзе. Мікола Аўрамчык, дарэчы, мае вельмі аптымістычны погляд на сучаснасць:

***Радасна, што ты чалавек,***
***Што жывеш ты пад родным небам!***

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**
**ст. навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы**

*На здымках: М. АЎРАМЧЫК выступае каля помніка Янку Купалу на Вайсковых могілках. Чэрвень 1998 г.; на свяце паэзіі ў парку імя Янкі Купалы. Ліпень 1997 г.*

КОНКУРС

# Беларуская мадонна XXI стагоддзя

Не трэба праводзіць даследаванні, апытанні, каб пераканацца, што "лад жыцця" ў нас месцамі разыходзіцца з агульначалавечымі нормамі. Для прыкладу — самая "непрыкметная" праблема — беларуская сям'я. Беларусь на першым месцы ў Еўропе па разводах, а ў свеце на трэцім — пасля ЗША і Аўстраліі. Агульнавядома, што на "дзікім" Захадзе муж выплачвае аліменты былой жонцы аж да таго часу, пакуль яна другі раз не выйдзе замуж. У нас жа ўмудраюцца не выплачваць нават на ўтрыманне пакінутых дзяцей. Адданасць, вернасць, ахвярнасць — з'ява, не характэрная для нашых маладых людзей у шлюбе. Сёння распадаецца кожная другая сям'я з трох створаных. За апошнія два гады кожны год недзе 14300 дзяцей нараджаюцца па-за шлюбам, прыблізна 500 немаўлятак ужо ў раддоме асуджаны на безбацькоўшчыну, бо ад іх адразу адмаўляюцца. З трох выпадкаў цяжарнасці два завяршаюцца абортамі.

Гэтыя лічбы атрымалі ў грамадскай арганізацыі "Надзея-Экспрэс", якая ўзялася за цяжкавырашальныя праблемы дапамогі самым безабаронным у нашай краіне — хворым жанчынам і дзецям. Яе дзейнасць не часта рэкламуецца на старонках беларускай прэсы, хоць "Надзея" існуе ўжо шэсць гадоў.

Арганізатары з "Надзеі" насуперак сітуацыі і трывожным прагнозам вырашылі быць аптымістамі і адважыліся распачаць праект "Беларуская мадонна XXI стагоддзя" ў падтрымку маладых сем'яў у Валожынскім раёне. А калі атрымаецца, то пашырыць вопыт на ўсю Беларусь. У кантэксце працы нарадзілася думка далучыць да сродкаў пераканання і мастацкую творчасць, самую аператыўную — фотааб'ектыўную. Быў абвешчаны рэспубліканскі конкурс "Таямніцы мацярынства", прысвечаны жанчынам, якія зацяжарылі, нарадзілі і першы год гадуюць дзіця. Нечакана для арганізатараў адгукнулася шмат прафесійных фатографаў і аматараў.

У снежні мінулага года журы падвяло вынікі. Першае месца не прысуджалася, бо не было яўнага лідэра, які б зрабіў важкае творчае адкрыццё. Другое месца падзялілі Сяргей Кавалёў, Зоя Мігунова, Уладзімір Цуркін з Мінска за серыі прац з нейтральным тытулам "Без назвы". Трэцяе месца занялі Анатоль Кляшчук (Мінск) за серыю "Чарнобыльская маці" і Ігар Пешаханаў з Ліды за фота "Без назвы". Журы таксама адзначыла дыпломамі працы С. Брушко (Мінск), В. Стралкоўскага (Мінск), І. Вішнеўскага (Ваўкавыск). Праца Яўгена Казюлі атрымалася такой простай і сімвалічна выразнай — немаўлятка цягнецца да мацярынскай грудзі, — што было вырашана рэкамендаваць яе ў якасці афішы-плаката будучай выставы. Знайшліся памятныя падарункі і для лепшых гераінь фотапрац.



Зараз арганізатары выставы шукаюць магчымасць паказаць вынікі конкурсу ў Мінску і іншых гарадах Беларусі. Не пакідае надзея, што калі адбудзецца першая такая выстава, многае можа памяняцца ў адносінах да праблем беларускай сям'і ў грамадстве. Бо там, дзе ўжо не дзейнічаюць іншыя аргументы, у мастацтва свая пераканаўчая моц уздзеяння.

**Яўген ШУНЕЙКА**

*С. КАВАЛЁЎ, "Без назвы".*

Анатоль КУДРАВЕЦ

# Я Прыпяці выток і вусце

## СЛОВА РАЗВІТАННЯ



Школа ў Ведрычы, якую пабудаваў Ул. Верамейчык



Прыпяць ля Перарова

ПАМЁР Уладзімір Верамейчык...

Вестка пра яго смерць знайшла мяне ў Мінску позним нядзельным вечарам.

З Вячы — ёсць такая вёска ля купалаўскіх Бялaручаў, там я некалі купіў і абжыў сялянскую хату — звычайна вяртаюся ў панядзелак: і аўтобусы вальнейшыя, і гарадскі тлумны тыдзень пачынаецца пазней. Гэтым разам прыехаў у нядзелю. Быццам для таго, каб самому пачуць трагічна-дрыжачы голас Лёшы Краўчанкі: “Толя, памёр Валодзя...”

Мне не трэба было тлумачыць, хто мог быць той Валодзя. Гэта мог быць толькі Валодзя Верамейчык.

Некалі мы разам цэлы летні месяц лавілі шчупакоў, акунёў і плотак на Прыпяці ля Перарова. Варылі юшку, глядзелі на заваражана-мігатлівы вячэрні агонь, дзівіліся, як і чым жыве неба, слухалі глухое дыханне ракі і роднай зямлі. Краўчанка — з малой дачушкай Наташай, Кудравец з малым сынам Паўлам, Верамейчык з нязменным сваім чорным памочнікам, звалі яго Жук.

Верамейчык паклапаціўся, каб у кожнай сям'і была свая палатка, нават каб была персанальная палатка ў нашага вартаўніка-заступніка Жука. Была яшчэ адна прасторная палатка-сталоўка з газавым балонам і плітой і канспіратыўна прыхаваным непустым бітонам з лячэбным сокам — ведрыцкім самагонам. Палатку паставілі на выпадак дажджу і ветру, бо звычайна снедалі і абедалі пад дубам, за невялікім, збітым з дошак, столікам, на адкрытай прасторы, адкуль відна была Прыпяць і яе Завухоўе.

Была ў нас і лодка-маторка, на якой мы выходзілі лавіць рыбу “на дарожку”: ціха стукае матор, з борта, як мініяцюрныя гарматы, тырчаць тры спінінгі, тры лескі ныраюць у ваду, ведучы на канцах тры блешні, запрашаючы шчупакоў на рызыку. І яны адчайна рызыкавалі.

Ледзь не кожны дзень да нас прыплываў бакеншчык Толя Цяслюк, каб пацікавіцца, ці не трэба малака, ці мо хлеба, ці яшчэ чаго, а заадно прычасціцца да лячэбных кропель з канспіратыўнага бітона. “Канспірацыя” рабілася для нашых жонак, якія гразіліся як-небудзь прыехаць і прарэвізаваць сваіх мужыкоў-адыходнікаў, і была надзіва простай і дзёрзкай. Бітон быў закапаны ў зямлю ля газавай пліты, зверху на яго і на траву быў пакладзены канец шырокай дошкі: “каб ногі стаялі на цвёрдым і каб не мясіць гразь ля пліты”. Заставалася толькі адсунуць убок дошку, адкінуць накрыўку бітона і апусціць у яго руку з алюмініевай конаўкай... Накрыўка зачынялася, дошка пасоўвалася назад, конаўка ставілася на стол: ці то бярозавік у ёй, ці пітная вада... Як ні дзіўна, “канспірацыя” не было раскрыта аж да таго часу, пакуль конаўка не пачала шкрэбаць па дне і ўжо трэба было даставаць сам бітон... Праўда, у жонак нашых узнікалі пэўныя падазрэнні, што, відаць, не толькі чыстае рачное паветра з'яўляецца прычынай раптоўнай актывізацыі і ажыўлення іх мужыкоў, але што “прычына” тая ў іх пад нагамі, здагадацца не змаглі.

Лета было цёплае, спакойнае, шчупакі кідаліся на блешні, як на самых паважных жыўцоў.

Кудравец не так даўно вярнуўся са Штатаў і навёз хлопцам заморскай кручкоў, японскай лескі і шмат іншай рыбацкай патрэбшчыны і непатрэбшчыны, а з усім гэтым і неадстаялых яшчэ баек пра амерыканскае жыццё.

Па Прыпяці насіліся цеплаходы на падводных крылах, вёрткія маторкі, а перад захадам сонца, павольна, як каровы на вячэрнюю дойку, вярталіся ў свае вёскі паромы, ацяжараныя высушаным сенам і звонкімі людскімі галасамі.

У недалёкім лясным Хваенску не зводзілася кіслае “Каберне” — віно для нашых жонак, бо ніхто з “нармальных” мужыкоў, працаўнікоў сяла і лесу, не купляў гэтую кісляціну. Часам мы выводзілі сваю маторку на шырокую ваду Прыпяці і таксама будзілі зарослыя лазой берагі шалёным металічным лопатам...

А там адным прыгожым і самым урадлівым для завухоўскіх рыбакоў днём прыехалі і строгія “кантралёры”: Вера Верамейчык і Люба Кудравец. Прывёз іх на сваёй маторцы ўсё той жа Толя Цяслюк. Мы якраз толькі што выгрузілі з лодкі ўлоў — штук пятнаццаць падкілаграмовых шчупакоў, некалькі таўстабокіх акунёў. Калі пад вечар мы выпраўляліся на абавязковы рыбны мацыён, нашы жонкі далікатна папрасілі: “Хлопцы, вы такіх вялікіх шчупакоў не бярыце. Бярыце меншых, ну, грамаў на трыста, чатырыста...”

Усё гэта было некалі, і “некалі” гэта было ў 1980-м годзе. У той ураджайны дзень Валодзя зрабіў “гістарычны” здымак: прымусіў мяне ўзяць у абедзве рукі двух вялізных шчупакоў і шчоўкнуў фотаапаратам, дадаўшы: “Усё роўна ніхто не паверыць, што гэта ты іх злавіў...”

Што б ён ні гаварыў, а шчупакоў тых злавіў я на серабрыстую бляшню, хоць спінінг трымаў у руках першы раз. То была мая самая вялікая рыбацкая ўдача за ўсё жыццё — восем ці дзевяць шчупакоў! Удача, якая лішні раз пацвердзіла вядомую ісціну: дурням і дылетантам часам шанцуе больш чым каму.

Пазней з таго негатыву Валодзя зрабіў вялізнае, ледзь не ў мой рост, фота, наклеіў яго на каляны ліст кардону і ўрачыста ўручыў мне ў Мінску.

Гэта фота ўпрыгожвае сёння пакойчык-раздзявалку ў маёй лазенцы ў Вячы, пакойчык са столікам, акном і тапчаном. Папарыўся, выйдзі з парылкі, прысядзь ці прыляж, выпі шклянку халоднага квасу. А ўваходзіш у лазню, адчыніш дзверы з двара — на паўсценны Кудравец з голым жыватом і шчупакамі, а за ўсім гэтым — Прыпяць і Верамейчык.

**Гэта** субота выпала на 25 снежня. Я паліў у лазні, пазіраў то на агонь, што бушаваў у печцы, то на фота. І ў каторы раз успамінаў той наш шчасліва-агульны месяц 1980 года на беразе Прыпяці.

Успамінаў, не ведаючы, што ў гэты час, у гэтыя хвіліны Валодзя Верамейчык знаходзіўся ў Рэчыцкай бальніцы. Не ведаючы, што дактары накачваюць яго ўколамі, спрабуючы прымусіць рабіць сваю работу разбэрсаныя ныркі, каб тыя далі палёгку сэрцу, ацёчным лёгкім і тым самым далі чалавеку збавенне ад болю.

Палёгка не прыйшла. Прыйшло збавенне... Але якое збавенне...

Як мужчына ён не быў грузны. Ён быў здаровы. Ён быў здаравіла. Рост, плечы, рукі, голас. Самы прасторны касцюм быў яму цесны. Відаць, таму ён не любіў зашпільваць пінжакі...

Ён быў вялікім аптымістам, і аптымізм яго перадаваўся ўсім, з кім ён сустракаўся, працаваў, дружыў. Ужо адной сваёй постаццю, якую не зрушыць з месца, калі яна сама таго не захоча, ён даваў упэўненасць у абавязковасці таго, чаго дамагаўся, што намячаў.

Дырэктарам школы ён быў ні многа, ні мала — трыццаць пяць гадоў. Дырэктар школы не можа не быць дыпламатам. Верамейчык дыпламатам не быў. Дыпламатам у сэнсе нешта абысці з тылу, перад некім прыгнуцца, недзе прамаўчаць, недзе недагаварыць...

Ён быў дыпламатам праматы, дыпламатам розуму. Такіх дыпламатаў любяць людзі, такіх дыпламатаў не любіць начальства...

Позняй ноччу 27 снежня разам з яго стрыечным братам, вядомым кардыёлагам і вучоным Эдуардам Збароўскім і яго жонкай Людмілай Сцяпанаўнай мы ўехалі ў Ведрыч.

Нядаўна выпаў снег, і ўсё сяло было белае. Глухая цішыня. У мёртвым пасёлку яркімі агнямі выдзяляўся адзін дом — дом Верамейчыкаў.

На двары нас сустрэла Валодзева сястра Рыта Міхайлаўна і Лорд — высокі нямецкі дог.

Лорд абнюхаў нас, прызнаў за сваіх і па прыступках ганка пабег назад у хату.

**Гаспадар сустракаў нас у прахадным пакоі.**

Я ведаў яго здаравілам, я ведаў яго магутным. Той, каго я ўбачыў, быў яшчэ большы. У вялізнай шырокай дамавіне, абшытай карычневым, ён ляжаў высокай нерухомай гарой. Нахмураны цяжкі лоб навісае над шырока раскінутымі скуламі. Лоб усё яшчэ працягвае думаць...

Дамавіну хацелі паставіць у яго рабочым кабінеце. Там стаяў стол з пішучай машынкай, там стаяла канапа для Лорда. Дзверы **не пусцілі** паэта туды, дзе ён сядзеў, дзе ён думаў, дзе працаваў.

Твар яго быў светлы, але пад раніцу пачаў цямнець, наліваца халодным антрацытавым бляскам. Лоб працягваў хмурыцца, усё больш навісаючы над тварам.

“Смерць не ўпрыгожвае чалавека...” Гэта так. Але тут смерць нібы высвечвала тое, што не высвеціла жыццё, — здавалася, нейкая ўпартая нявыказаная думка працягвала жыць і насоўвала гэты магутны, цёмны і як быццам зусім не мёртвы лоб на твар.

Раніцай дамавіну перанеслі ў школу.

І зноў з вялікай цяжкасцю, нахіляючы набок, сантыметр за сантыметрам, прыступка за прыступкай, яе ледзь праціснулі ў дзверы на вуліцу. Цяпер **дом не хацеў выпускаць гаспадара.**

Школа стаіць недалёка, цераз вуліцу. Шмат гадоў Верамейчык з вокнаў школы мог глядзець на свой дом, з прыступкаў свайго ганка мог глядзець на школу. Сваю школу.

Цяпер ён ляжаў пасярод школьнай залы-фае. Ля сцен — развітальныя вянкі. Хлапчукі-школьнікі стаяць у жалобным развітальным караўле. Яны пазіраюць перад сабой, упарта не жадаючы апусціць вочы ўніз. Відаць, яны не хочуць бачыць **такога** дырэктара. Кругом людзі, шмат людзей... І сярод гэтых людзей, як непрыкаяны, рашучымі крокамі ходзіць туды-сюды, тыцкаючыся пысай то ў дамавіну, то ў рукі людзей, Лорд. Сабака не разумеў, што адбываецца. Ён быццам пытаўся, што здарылася, чаму столькі людзей і чаму такі пасіўны, такі маўклівы, такі нерухомы яго гаспадар. І ні ад кога не чуў адказу...

Пяць гадоў назад Уладзіміру Верамейчыку падаравалі невялічкага бездапаможнага шчанюка тады яшчэ міністр унутраных спраў Беларусі, васілевіцкі зямляк і стары сябра паэта Юрый Мікалаевіч Захаранка. “Каб Верамейчык глядзеўся салідна, — так сказаў ён, перадаючы шчанюка з рук у рукі. — А то блытаецца ў такога чалавека пад нагамі ўсякая беспародная малеча”.

Шчанюк вырас у сапраўднага прыгажуна. І яны добра глядзеліся побач — салідны мажны Верамейчык і Лорд — гладкая, чорна-стальная масць, высокія, гонкія ногі, тонкі пружыністы хвост, вялікая, нібы вытачаная з моранага дубу галава, разумныя бурштынавыя вочы...

І вось... Прапаў, як у ваду кануў, Юрый Захаранка. Ляжыць у дамавіне гаспадар. Ляжыць і маўчыць... Як жыць Лорду?.. З кім жыць Лорду?..

Прыйшоў бацюшка, запалілі свечкі, у школе нязвычна запахла воскам. Пачалося адпяванне...

Адпяванне скончылася. Мужчыны бяруць на плечы дамавіну і пад жалобны стогн аркестра выносяць са школы. Катафалк стаіць на белай, засыпанай снегам дарозе. Ён ціха кратаецца з месца. Людзі ідуць услед за ім.

Ацярушаныя снегам высокія ведрыцкія дубы маўкліва праводзяць у апошні шлях чалавека, які так часта хадзіў тут, чалавека, які любіў хутка ездзіць, а цяпер ехаў так ціха, чалавека, які шмат гаварыў пра ўсіх і так мала гаварыў пра сябе.

Ніколі не было **так шмат** дубоў у ведрыцкім парку, ніколі не ішло так шмат людзей па гэтай дарозе...

Дубы засталіся ззаду, а людзі ішлі, ішлі...

Ён сам захацеў, каб яго пахавалі ў вёсцы Нахаў. Гэта ўжо Калінкавіцкі раён. Там прайшло яго дзяцінства, там некалі ён адбудаваў спаленую вайной хату, там пахавана яго мама, настаўніца Соф'я Данілаўна Збароўская.

Ён сам выбраў месца — побач з ёй.

Ад Ведрычы да Нахава больш за трыццаць кіламетраў. Машыны не спяшаюцца. Шмат пра што можна падумаць. Шмат што ўспомніць з таго, што Ён пісаў і пра што Ён пісаў, што часта паўтараў у сваіх вершах і што раней успрымалася ці залішне публіцыстычным, ці залішне заземленым, прывязаным да канкрэтных мясцін, канкрэтных падзей, канкрэтных людзей... Прыпяць, Мазыр, Палессе... Тураў, Пераароў, Барбароў... Успрымалася так хутчэй па прычыне паспешлівасці, з якой чыталася, па прычыне нажніц паміж паэзіяй і рэальнасцю, як і нажніц паміж жывым і мёртвым.

(Працяг на стар. 14)

# “Куток дзівосны...”

**Зямля капыльская — багатая на таленты. Яна нам дала нямала слынных празаікаў і паэтаў, сярод якіх Кузьма Чорны, Цішка Гартны, Мікола Хведаровіч, Анатоль Астрэйка, Адам Русак і іншыя. А любоў да матчынай мовы, жаданне выказацца, прымушае брацца за пяро тых, хто бачыць у гэтым духоўную патрэбу. Яны збіраюцца вакол літаратурнага аб’яднання “Вясёлка”, што яшчэ ў 1964 годзе было**




**заснавана пры рэдакцыі капыльскай раённай газеты “Слава працы”. Цяпер “Вясёлка” апякуецца не толькі рэдакцыяй раёнкі, а і Цэнтральнай раённай бібліятэкай імя А. Астрэйкі. Дагэтуль капыльскія літаратары выступалі на старонках “Слава працы”, а Іван Пракарына паспеў нават выдаць у “Бібліятэцы часопіса “Маладосць” сваю першую кнігу паэзіі. Цяпер у Капылі, дзякуючы фінансавай падтрымцы райвыканкама, выйшаў калектыўны зборнік “вясёлкаўцаў” “Куток дзівосны гнёздаў салаўіных” (складальнік Марыя Шэіна), назву якому далі радкі верша “Капыльская радзімая зямля”, напісанага настаўнікам матэматыкі Капыльскай дапаможнай школы-інтэрната Мікалаем Майсюком, які нарадзіўся на Капыльшчыне, у вёсцы Пясочнае:**

*Куток дзівосны гнёздаў салаўіных —*
*Капыльская радзімая зямля.*
*Нідзе няма другой такой мясціны,*
*Дзе б адпачыў душой і сэрцам я.*

**А адкрываюць кнігу вершы І. Пракарыны. Родам ён з Нясвіжчыны, а з 1975 года звязаў лёс з Капылём, працаваў рэдактарам газеты “Слава працы”. Вершы І. Пракарыны ў параўнанні з творамі іншых пачаткоўцаў значна мацнейшыя. Асабліва тыя, у якіх паэт старанна ўзважвае кожнае слова. Ды і разумее, наколькі гэта адказная справа — жыць паэзіяй, у чым пераконвае верш “Пазнанне”:**

*Жыццё вузлы нанізвае на памяць,*
*Турботамі ўслан яго працяг,*
*І нават старасць, поўнай меркі старасць*
*З турботамі застыне ў вачах...*
*А ты ідзеш. І прабягаюць міма*
*Сустрэчнага пазнання астраўкі...*
*Паэзія без парцы немагчыма,*
*Як немагчымы поціск без рукі.*

**Аркадзь Новік пражыў доўгае жыццё. Нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Жыліхава, працаваў настаўнікам, дырэктарам школы. Піша пра тое, што блізка і дорага з маленства — вершы “Завіруха”, “Прызімак”, “Песні жаўрукоў”. Першы з твораў напісаны ў фальклорнай традыцыі:**

*Віхура ў полі закруціла,*
*У верхавінах загула.*
*Гэта ж сёння загуляла,*
*Завіхурыла зямля.*

*Стогнуць елкі ды хваіны,*
*Захісталіся дубы,*
*Быццам чэрці робяць кпіны*
*У паветры і на зямлі.*

**Змешчаны ў зборніку і вершы Тамары Мінчэні, Аляксандра Царкова, Ядвігі Малевіч, Аляксея Траццяка, Любові Мотуз, Святланы Кастрамічовай, Святланы Кулікоўскай, Вольгі Шэінай, Святаслава Прымака, Русланы Гасанавай, Міхаіла Лагуна, Марыны Кухарчык, Святланы Сваярчковай. Тэма іх традыцыйная, а многія аўтары пішуць пра любую сэрцу Капыльшчыну.**

**Знайшлося ў кніжцы і месца празаічным творам — гумарэсцы І. Беркі “Не вер вачам сваім”, апавяданням Маргарыты Саковіч “У чаканні” і Васіля Лобана “Барадаты”. Твор М. Лобана — гэта па сутнасці замалёўка з натуры. Герой-апавядальнік у чаканні аўтобуса пазнаёміўся з выпадковымі спадарожнікамі. Слова за словам і пачалася гамонка. Аўтару ўдалося перадаць адметнасць гаворкі кожнага з персанажаў.**

**Кніга ілюстравана фотаздымкамі Івана Ігнатчыка, якія адлюстроўваюць пэўныя моманты з жыцця літаб’яднання. Змешчаны і партрэты аўтараў.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ВІНШУЕМ!

# Боль слова

## Валянціну ТАРАСУ — 70



Рознай вядомасці ў нас літаратары. Але часам і вядомасць як быццам сярэдняя, а пісьменнік — сапраўдны. Абыходжанне ў яго са словам — выключна прафесійнае. Талент прысутнічае ў кожным творы.

Вось гэтая сапраўднасць і бачыцца, вылучаецца ў напісаным Валянцінам Тарасам, паэтам, празаікам, публіцыстам. Да ўсяго В. Тарас — аўтар большасці песень для канцэртнай праграмы “Праз усю вайну” ансамбля “Песняры”, сцэнарыст дакументальнага кіно — варта ўзгадаць хаця б толькі фільмы пра М. Багдановіча, П. Панчанку, Р. Барадуліна, перакладчык (што да паэзіі, то лепшыя пераклады В. Тараса на рускую мову сабраны ў зборніку “Запах мёда”).

Кнігі вершаў Валянціна Тараса апошняга часу — “Пазіцыя”, “Колеры” — напісаны па-беларуску. Можа быць, нават правільней сказаць, што кнігі складзены з вершаў, напісаных аўтарам па-беларуску ў розныя гады. Адчуваецца, што запар В. Тарас вершы не нараджае.

***Гэтак мой зрок з дзён***
***маленства школілі,***
***шкельцы гэткія ў зрэнкі ўпёрлі,***
***што мог я адрозніваць***
***толькі два колеры —***
***белы і чорны.***

***Бачыў белае чорным***
***праз тое шкло,***
***Чорнае бачыў белым.***
***У чорна-белым свеце***
***жыццё прайшло,***
***Цёмны чуб зрабіла ссівелым.***

***Стары, вучуся***
***глядзець наноў,***
***Свету дзіўлюся***
***і ўдзень і ўночы,***
***ад безлічы фарбаў,***
***адценняў, таноў***
***аж баляць вочы!***

***Нібы выйшаў да мора,***
***да шырокага плёсу***
***з лесу глухога,***
***з вядзьмарскай хаты,***
***чые вокны сляпыя,***
***як бельмы лёсу,***
***пазіралі праз чорныя краты.***

***Гляджу і шукаю —***
***дзе ж тыя ўмельцы,***
***што белы свет***
***ад мяне зашорылі,***
***у зрэнкі мне ўпёрлі***
***такія шкельцы,***
***што мог я адрозніваць***
***толькі два колеры?***

Гэтыя радкі — з верша “Колеры”, якім заканчваецца аднайменная кніга. І верш, і ўся кніга (як і папярэдняя — “Пазіцыя”) выразна акрэсліваюць цягу, імкненне аўтара размаўляць з чытачом мовай публіцыстыкі. Праўда, у тых жа “Колерах” паэт дзеліць творы і на такія раздзелы — “Публіцыстыка” і “Лірыка”. У першым з названых — “Што навальніца прыйдзе — верым...”, “Цячэ рака ў абдымках дамбы...”, “Адплата”, “Не золата пакіну сыну...”, “Прывычка”, “Вандзя”, “Смех”, “Не зробіш палітыку ў белых пальчатках...”, “Пражская вясна”, “Дарога да Курапат”, “На “Дзяды”, “Словы часам...”, “Рынак”. Назвы гавораць самі за сябе. Ясны і зразумелы змест кожнага з твораў. Усюды прысутнічае аўтар, яго канкрэтнае “я”, усюды — свой погляд на навакольную рэчаіснасць. Але і ў вершах, сабраных у раздзеле “Лірыка” і іншых частках кнігі, ва ўсёй паэзіі В. Тараса — тая ж публіцыстычнасць. Праўда, гэтую адметнасць не варта блытаць з дэкларацыйна-газетнай публіцыстычнай паэзіяй, якой перапоўнены некаторыя шматтомныя зборы твораў сучаснікаў В. Тараса.

***Турбуе іншае мяне:***
***я добры чалавек ці не?***
***Грызе сумленне:***
***ёсць хоць што-небудзь за душой***
***ці ўся пакрылася паршой?***
***Ці ёсць сумленне?***

— радкі з “Нясціплага верша” (раздзел “Лірыка”). Пытанне, пытанні пра сябе, асэнсаванне зробленага і пройдзенага, улік памылак — гэта не можа не імпанаваць, не можа не прыцягваць. Эстэтычныя катэгорыі, мастацкія вобразы, увогуле паэтычна-мастацкая канструкцыя вершаў В. Тараса — усё мае пад сабой цвёрды грунт, сабраны з маральных, агульначалавечых каштоўнасцей.

***Бо крыўды тыя***
***не ў труне —***
***яны, як камяні, на мне:***
***ўздыхнуць не ў стане!..***
***Але нябожчыкі маўчаць...***
***Каб крыўды тыя даравать —***
***ніхто не ўстане.***

*(“Нясціплы верш”).*

Чытаючы вершы Валянціна Тараса, думаеш пра сябе, шукаеш заганы ў сабе, вядзеш спрэчку з самім сабой.

Часам ловіш сябе на думцы, што ў “Колерах”, “Пазіцыі” — ці не зашмат жорсткасці, “самобичевания”. Маўляў, а мо і не трэба гэтай балючасці, мо не трэба гэтулькі болю... Чаму б пра тое ж самае — трывогу, сумненне, сумленне, — ды толькі б мякчэй, спакойней, на адлегласці як быццам?.. Час і без таго жорсткі. Навошта нам пра ўсё страчанае, духоўна абязлічанае, дык вось так — у лоб, безінтэлігентна?..

***Але высыпаюць на твары***
***хацімчыкі ўлады.***
***Свярбяць.***
***І карціць***
***найхутчэй задаволіць патрэбу,***

# Ёсць талент... Ёсць свая тэма...

## Сяргею ТРАХІМЁНКУ — 50



Поўдзень жыццёвага веку ёсць поўдзень!.. Належным чынам падрыхтаваўся да сваёй юбілейнай даты і Сяргей Трахімёнак. З’явіліся новыя публікацыі ў перыёдыцы, выйшлі дзве кнігі. “Груз небесный” пабачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура”, “Заказ на двадцать пятого” выйшла ў Маскве дзякуючы недзяржаўным выдавецтвам. І адразу прыхільна былі сустрэты чытачамі, а прычына адна: піша С. Трахімёнак да таго цікава і вострасюжэтна, што, узяўшы кнігу ў рукі, цяжка адарвацца ад яе, не перагарнуўшы апошнюю старонку. І гэта пры тым, што сам Сяргей Аляксандравіч не адносіць сябе да майстроў дэтэктыўнага жанру, аб чым, у прыватнасці, зазначыў у адным з інтэрв’ю, змешчаным у газеце “Хроника”, адказваючы на пытанні Любові Шэлег: “Дэтэктыў будзе развівацца, як і ўся літаратура, адлюстроўваючы ўсё, што адбываецца ў сапраўдным жыцці. Мне толькі незразумела, чаму большасць журналістаў пытаюцца пра гэта менавіта ў мяне. Я ўпэўнены, што пішу проста прозу, загорнутую ў абгортку так званага вострага сюжэта. А выдаўцы і чытачы чамусьці трывала залічылі мяне ў разрад літаратараў-дэтэктыўшчыкаў. Таму я ніяк не бачу сябе ў дэтэктыўнай літаратуры, а бачу сябе ў літаратуры з вострым сюжэтам”.

Але справа не ў жанравым вызначэнні. Яно, як і кожнае параўнанне, у нечым “кульгае”, бо далёка не заўсёды можна правесці мяжу паміж літаратурай, кажучы словамі С. Трахімёнка, “з вострым сюжэтам” і звычайным дэтэктывам. Хоць, калі разабрацца, ад звычайнага дэтэктыва яна адрозніваецца сваёй псіхалагічнай заглыбленасцю, дакладным спасціжэннем аўтарам тых унутраных зрухаў, што адбываюцца ў душы персанажаў, а нечаканыя калізіі, неверагодныя сітуацыі перастаюць з’яўляцца самамэтай, а арганічна ўваходзяць у канву твора. А вось “літаратура з вострым сюжэтам” блізкая дэтэктывам, напісаных не дылетантамі, а майстрамі. Яны, перад усім, могуць быць і тонкімі псіхолагамі. Ды і ў самога С. Трахімёнка ёсць творы, што падпадаюць пад “вострую” літаратуру і такія, у якіх элементы дэтэктыва адчувальныя моцна.

Для першых адносіцца і аповесць, якая дала назву кнізе ў “Мастацкай літаратуры”. Калі ў некалькіх словах вызначыць сюжэт гэтага твора, ён зводзіцца да наступнага: лейтэнант Малых атрымлівае ад камандавання загад адправіць на радзіму труну з целам падначаленага. Але аповесць не толькі пра гэты трагічны выпадак, і не толькі гаворка ідзе аб тым, з якімі неймавернымі цяжкасцямі сутыкаецца галоўны герой у дарозе, бо яму спецыяльнай машыны не выдзелілі. Спачатку трэба карыстацца звычайным рэйсавым самалётам, пасля цягніком... Аповесць “Груз небесный” — гэта і жыццё сучаснай арміі ўвогуле, і лёс чалавека, які апынуўся ў ёй. Малых належыць да тых, хто прызваны з запасу, а таму яму вельмі цяжка. І з-за парадкаў, якія далёка не заўсёды адпавядаюць статутным, і з-за сваёй непадрыхтаванасці да такога жыцця. Аднак ёсць і іншае, у дадзеным выпадку больш істотнае: лейтэнант Малых — вельмі сумленны чалавек, а таму ў новай для яго грамадзе нярэдка выглядае белай варонай. Але Малых не з тых, хто здаецца пры першых жа цяжкасцях. Малых з тых, каго цяжкасці загартоўваюць.

Сяргей Трахімёнак далёкі ад думкі стварыць нейкага ідэальнага героя. Адштурхоўваючыся ад самога жыцця, ён цудоўна разумее, што такога героя няма і быць не можа. Малых — жывы чалавек. З усімі яго вартасцямі і слабасцямі. І як чалавек, ён дзейнічае адпаведна той сітуацыі, у якую трапляе. Калі чытаеш аб тым, як лейтэнант, прымяніўшы прыём, зваліў “Белокопытого — двадцатидвухлетнего переростка с большим ртом и лицом глухонемого”, разумееш, што Малых парушыў статутныя патрабаванні. Але нельга не разумець і таго, што Белакапытаў даўно тэрарызуе салдат, не выконвае загады афіцэраў, “косіць” пад псіхічна-хворага, а на самай справе ў яго, як устанавілі медыкі, звычайная псіхапатыя, а гэта не хвароба, а рыса характару. Урок, дадзены лейтэнантам, ідзе на карысць. Наўрад ці з’явіцца пасля ўсяго ў Белакапытава жаданне здзекавацца з іншых.

Гэтыя і іншыя выпадкі ў аповесці — стрыжнявыя, вакол іх і разгортваецца характар галоўнага героя. Твор — вострасюжэтны ў той ступені, у якой і павінна быць вострасюжэтнай проза, па-сапраўднаму жыццёвая, калі кожная сітуацыя аўтарам вынашана, дэталёва асэнсавана. І хоць эпіграфам узяты словы Майн Рыда: “Чытач! Перад табой раман і нічога больш, не лічы аўтара кнігі яго героем”, несумненна, С. Трахімёнак шмат

*і гатовы плаціць*
*неафіты і пеклу, і небу.*
*("Не зробіш палітыку*
*ў белых пальчатках...")*

Не, шлях В. Тарасам, відавочна, абраны правільны.

Здаецца, як бы Валянцін Тарас не імкнуўся разабрацца ў самім сабе, у сваіх пошуках, усё ж праз усе свае літаратурныя клопаты пісьменнік гэтым і вызначаецца — сапраўднасцю. І ў прозе — таксама. На зацішшы 1970—1980-х своеасаблівай з'явай стала кніга аповесцяў і апавяданняў "Прощальные костры" (Мінск, 1980). Прадмову да кнігі напісаў Алесь Адамовіч: "...Самае агульнае пачуццё, якое суправаджае нас пры чытанні Валянціна Тараса (і калі ведаць яшчэ і вершы яго, таму што ён і вершы піша), — гэта пачуццё, што разам з яго героем, героямі выпрабоўваемся на чалавечнасць... Вытрымаем, не вытрымаем выпрабаванне — часцей за ўсё ніхто нават не даведаецца аб гэтым. Ніхто ва ўсім свеце! Акрамя нас саміх. Але ж мы будзем ведаць, мы пра сябе ўсё ведаем. Канешне, да сябе мы бываем вельмі нават паблажлівыя. Але і пры гэтым сябе не ўпрыгожвалі". І далей: "А шчасце чалавечае залежыць ад таго, што ён ведае пра сябе — пра свае перамогі і страты маральнага парадку. Чалавечае жыццё — пастаянная спрэчка, нават паядынак з самім сабой: з уласным эгаізмам, трусасцю, раўнадушшам, сябелюбствам...".

Валянцін Тарас напружана і настойліва змагаецца за сябе, за сімпатычных яму людзей. І пасля кожнага апавядання, пасля кожнай аповесці ўражанне складаецца такое, як быццам душу вывернуў пры чытанні, прымераўшы мастацкі сюжэт на сябе.

...Аглядаючы напісанае і Валянцінам Тарасам, задумваешся пра адну важкую ў прынцыпе акалічнасць: а колькі яшчэ вось гэтым словам жыць, колькі ім часу адведзена, каб трывожыць, напружваць сумленне, свядомасць чытача?.. У любым выпадку паэт, празаік, публіцыст Валянцін Тарас зрабіў усё магчымае, каб чытанне гэтае доўжылася ў часе, дапамагаючы наступнікам у барацьбе з многімі і многімі заганамі.

***Што навальніца прыйдзе — верым.***
***Але баюся я, што мы***
***зжыліся з існаваннем шэрым,***
***як вязні з побытам турмы.***
***І ў дзень, калі нарэшце грымне***
***над галавой магутны гром,***
***мы забурчым старыя грымзы,***
***што хата ходзіць хадуном,***
***што ўсе парасчынялі дзверы***
***і вокны насцеж скразняком...***
***Галовы ўцягнем у каўнеры,***
***як тыя куры пад дажджом.***
***Агорне жах ад навальніцы:***
***"А што, калі яна і мне***
***лязом шалёны бліскавіцы***
***у сэрца самае пырне?".***

І зноў жа — з раздзела "Публіцыстыка", з верша "Што навальніца прыйдзе — верым..." Між іншым, гэта напісана ў 1972 годзе. Напісана пра сябе і пра нас. Напісана як сёння. І, відавочна, напісана з болем.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Рыгор БАРАДУЛІН

# Даўняму сябру

Валянціну Тарасу

***Вясёлым здавацца —***
***Навука нялёгкая.***
***І жарты свярбяць у далонях,***
***Як жар.***
***Шчупак утрапення ў адчаі пялёхкае.***
***Сава недаверу ў трывозе галёкае.***
***Сам-насам з сабой ці смяецца штукар?***

***Быць сумным —***
***Нязвыкла для вока староння,***
***Што помніць бясхмарнага веселуна.***
***Хоць будзе***
***Сляза ў прысак крыўдаў абронена,***
***Нахабна цікуе цікаўнасць варонняя,***
***У кубку абразы ці поўна віна?***

***Быць цвёрдым —***
***Мацнець у сваёй непахіснасці.***
***Быць мужным —***
***Дазволіць сумневу смялець.***
***У рэчцы, што выкраў патоп,***
***Берагі знайсці.***
***Пасмець запытаць***
***У маўклівістай існасці,***
***Ці доўга яшчэ будзе сэрца смылець?***

у чым ідзе і ад уласнага вопыту, калі служыў у арміі. Адсюль большая праўдзівасць і пераканаўчасць характараў, учынкаў, сітуацый.

Куды больш адчувальныя элементы дэтэктыва ў аповесці "Двенадцатый апостол", яна ўвайшла ў кнігу "Груз небесный", і ў рамане "Заказ на двадцать пятого", якія ў большай ступені прывязаны да дакументальнай асновы. Сюжэты пісьменніку ў многім падказала яго праца пасля заканчэння Вышэйшых курсаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР. Але па ступені прывязанасці да канкрэтных рэалій аповесць розніцца ад рамана. У першую чаргу гэта тычыцца галоўных герояў — адпаведна маладога Фёдара Унучака і вопытнага Васіля Веправа. Накont гэтага С. Трахімёнак гаварыў у вышэйзгаданым інтэрв'ю: "Адзіная розніца паміж ім (Веправым. — **А. М.**) і Унучакам у тым, што Унучак у большай ступені выдуманы персанаж. Што тычыцца Веправа, дык у яго ёсць рэальны прататып. Але "Заказ на двадцать пятого" мае і яшчэ аднаго героя, я маю на ўвазе Аніса, сябра Веправа, былога супрацоўніка органаў дзяржбяспекі, пазаштатнага аналітыка. Ён у чымсьці нагадвае Унучака, мабыць, не вельмі шчаслівым лёсам".

Лёс Аніса, а ў сапраўднасці Юрыя Анісенкава, незайздросны. Ён пачынаў вельмі добра і ўпэўнена, але з-за недарэчнага выпадку быў "спісаны" з органаў. Цяпер жа Аніс, не зважаючы на кепскае здароўе, не падае духам, любячы сваю нядаўнюю прафесію, ён хоча заставацца патрэбным людзям. Таму і стаў добраахвотным аналітыкам. А вось свой лёс Фёдар Унучак з аповесці "Двенадцатый апостол" перайначыў добраахвотна. У рэшце рэшт ён зразумеў, што больш не можа знаходзіцца там, дзе працаваў дагэтуль. Але парывае з органамі дзяржбяспекі так рашуча, што сярод колішніх сваіх становіцца чужаком. А такое не даруецца. Унучак трапляе ў псіхушку, а пасля яму нічога не застаецца, як працаваць дворнікам: "Людзі гуляюць у гульні, правілы якіх прыдумалі самі. Ён парушыў правілы гульні, а капрызная дама Бяспека жорстка адпомсціла яму..."

Аб'ядноўвае Аніса і Унучака — крыштальная маральная чысціня і сумленнасць. Такія не падвядуць у цяжкую хвіліну, яны заўсёды своечасова падставяць плячо сябру, не зважаючы на тое, чаго гэта будзе каштаваць самім. І невыпадкова начальнік аддзела па барацьбе з кантрабандай, карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю Васіль Вепраў у цяжкія хвіліны раіцца з Анісам. Вядома, у першую чаргу яму патрэбен вопыт колішняга таварыша па службе, вялікая эрудзіраванасць ва ўсім, што тычыцца гэтых праблем, але разам з тым у Анісе Вепраў бачыць сумленнейшага чалавека, а такога ў наш складаны час няпроста знайсці.

І аповесць, і раман — творы, якія прыносяць сапраўднае чытацкае задавальненне. У іх усё на "вышыні": і вастрыня дзеяння, і глыбіня псіхалагізму, і сама праўда жыцця. С. Трахімёнак, асабліва ў "Заказе на двадцать пятого", закранае вельмі балючыя моманты рэчаіснасці. Праўда, Беларусі гэта, на шчасце, пакуль тычыцца ў меншай ступені, а ў большасці расійскіх гарадоў на могілках з'явіліся "алеі ахвяр заказных забойстваў" і, што самае страшнае, гэтыя жудасныя алеі рэгулярна "засяляюцца". Вепраў і вядзе барацьбу з тымі, хто стаў платным забойцам. Вепраў пастаянна знаходзіцца на лініі агню. Ён, як той баец нябачнага фронту, у пастаяннай баявой гатоўнасці, хоць, гледзячы на яго збоку, цяжка здагадацца, што чалавек гэты здатны на паўсядзённы подзвіг.

А гэта яшчэ адна адметнасць твораў С. Трахімёнка. Перад намі — не супермены, перад намі — звычайныя людзі. І не проста людзі, а людзі, якія выбралі рэдкую і пакуль такую патрэбную прафесію. Іх работу, дзейнасць пісьменнік не рамантызуе, а паказвае такой, якой яна ёсць на самай справе. І ў гэтым таксама прываблівасць твораў С. Трахімёнка.

На мастацкім рахунку С. Трахімёнка не толькі гэтыя кнігі, а і "Игры капризной дамы", "Детектив на исходе века", тры п'есы. Ён з'яўляецца аўтарам сцэнарыяў тэлефільмаў "Справа лейтэнанта Прыблагіна", "Эцьен", "Кент", у сааўтарстве напісаў кінасцэнарыі "Заложнікі", "Аўрум і кампанія", "Задача з параметрамі", "Права на жыццё", "Фанаты дарог".

Набыткі — важкія, а інакш і нельга. Калі ёсць талент. Калі ёсць свая тэма.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

КНІГАРНЯ

# ...Расці, птушачка, здарова

З 1970 года, як вядома, выходзіць серыя "Беларуская народная творчасць". Спачатку жыццё ёй давала выдавецтва "Навука і тэхніка", цяпер — "Беларуская навука". За гэты час набралася ці не сорак тамоў унікальнай бібліятэкі, што з'яўляецца сапраўднай скарбніцай нацыянальнага фальклору, яшчэ адным сведчаннем таленту і мудрасці народнай. Некаторыя з тых, хто мае дачыненне да выхаду яе, паспелі стаць за сваю рупную адраджэнскую працу лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі, а намаганні па выданні таго, што варта не толькі нашай увагі, а і ўдзячнага стаўлення нашчадкаў, працягваюцца.

Нядаўна з'явіўся чарговы том "Радзіны. Абрад. Песні". Дасведчаны чытач, відаць, памятае, што кніга "Радзінная паэзія", блізкая па змесце гэтай, была выдадзена ў 1971 годзе. Ды народная творчасць — тая ж крыніца. Чым больш п'еш з яе ваду, тым становіцца яна чысцейшай, лепш наталяе смагу.

У архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама ў архіве Навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі пры Беларускім дзяржаўным універсітэце захоўваецца шмат матэрыялаў на згаданую тэму. У першую чаргу — радзінныя песні, запісаныя навукоўцамі і студэнтамі падчас штагадовых фальклорных экспедыцый. Акрамя таго, цудоўныя ўзоры такой паэзіі, неапублікаваныя ў томе, які пабачыў свет у 1971 годзе, ёсць у асабістых архівах вучоных-фалькларыстаў А. Емяльянава і У. Васілевіча, іншых збіральнікаў і даследчыкаў вусна-паэтычнай творчасці народа.

Гэтыя матэрыялы і ўвайшлі ў том "Радзіны". А ім папярэднічаюць уступныя артыкулы Т. Кухаронак "Беларускія радзінныя звычаі, абрады, вераванні", Г. Пятроўскай "Радзінная паэзія — неад'емная вербальная частка абраду" і Г. Таўлай "Беларускія хрэсьбінныя песні: пытанні гісторыі і тыпалогіі напеваў". Атрымаўся грунтоўны разгляд шырокага аспекту пытанняў, звязаных як з самім радзінным абрадам, так і з песнямі, якія спадарожнічаюць яму. А карысць ад гэтага аналізу найперш тым, хто прафесійна з фальклорам не звязаны, хоць, безумоўна, гаворка ўяўляе вялікую цікавасць і для саміх фалькларыстаў, этнографаў. А яшчэ больш таму, што амаль усе матэрыялы, змешчаныя ў томе, апублікаваны ўпершыню. Але для радавога чытача, знаёмства з томам — яшчэ адна магчымасць далучыцца да народнай нерушавасці: у традыцыях, звычаях. І пераканацца, наколькі багатым і змястоўным быў духоўны свет нашых продкаў, як яны з пакалення ў пакаленне зберагалі і перадавалі тое, што з цягам часу не страчвае сваіх эстэтычных і маральных якасцяў. А калі воляй абставін і лёсу мусілі пакінуць Радзіму — развітаўшыся з ёй, не развіталіся з тым, што чулі ад бацькоў і прадзедаў.

Лепшае пацвярджэнне таму — "Радзінныя звычаі і абрады ў в. Халмец Алененскага раёна Цвярской вобласці", што ўвайшлі ў раздзел "Абрад". Гэты матэрыял запісаў І. Карашчанка ў 1992 годзе ад А. Мазуравай: "Хрэсьбіны... рабіліся ў розны час. Усё залежала ад таго, як нарадзілася дзіця — здаровым ці не. Калі дзіця нядужае, неслі хрысціць адразу. У кумаўё бралі не толькі блізкіх, але і дальню. На хрэсьбінах абавязкова павінны былі кумы, бацькі і бабка. Было, што запрашалі родных. Як ехалі хрысціць, хросная брала (сама вытыкала чыстае белае палатно, т. зв. "рызкі". На гэтае "палаценца" пасля хрышчэння прымаў дзіця хросны (хрэсны), і яны, хросны і хросная, "дзелаюцца раднымі". Як прыязджаюць дадому — кумаўё. Як кумаўё былі халастымі (дзяўчына і хлопец), яны не мелі права жаніцца, бо сталі роднымі".

Гэта толькі частка абраду, запісанага ўдалечыні ад Беларусі. Ён таксама з'яўляўся напамінкам аб Бацькаўшчыне, а разам з іншымі, захаванымі звычаямі і абрадамі, перадаваўся і ў свайго роду астравок духоўнасці, які дапамагаў людзям на чужыне заставацца беларусамі. А калі памятаеш сваё, дык і душа не становіцца чужаніцай. Увогуле ж, хацелася б верыць, што з цягам часу ў серыі "Беларуская народная творчасць" з'явіцца асобны том (а можа, нават і некалькі), у якім будзе шырока прадстаўлены фальклор беларусаў, што жывуць у розных рэгіёнах колішняга Савецкага Саюза. Для прыкладу — "сібірскіх", якія так цудоўна зберагалі памяць пра радзіму сваіх бацькоў і дзядоў, аб чым, дарэчы, можна пераканацца яшчэ раз пазнаёміўшыся з кнігай нарысаў Янкі Сіпакова "Па зялёную маланку", якая выйшла ў 1971 годзе.

Асноўная ж частка тома — песні. Самыя розныя, бо зместам звязаны з пэўным момантам абраду. Адсюль і назвы падраздзелаў: "Песні пра дзіця і яго долю", "Песні пра маці-парадзіху і бацьку", "Велічальныя песні пра бабку і кумоў", "Жартоўныя песні пра бабку і кумоў", "Застольныя, бяседныя песні". Чытаеш іх і нібы прысутнічаеш у хаце, дзе радуюцца нараджэнню дзіцяці не толькі бацькі, а і ўся радня. Збіраюцца разам, каб у вясёлым гурце адсвяткаваць гэты шчаслівы момант. А там, дзе радасць, хіба можна абысціся без песні. І вось гучыць першая з іх, вітаючы з'яўленне на свет новага чалавека:

***Новая птушачка на свет з'явілася,***
***На свет з'явілася.***
***Галаском прабудзілася.***
***Расці, расці, птушачка, вяліка,***
***Каб была кругом павіта.***
***Расці, расці, птушачка, здарова,***
***Каб была добра падмога.***

А дзіцятка нарадзілася, дык хочацца, каб і доля ў яго шчаснай была. А хто, калі не Бог, даць яе можа, каму, як не яму, рупіцца, каб лёс чалавека складваўся хораша і ладна. Да яго звярталіся, у яго помачы прасілі:

***Кум з кумою дзіця носяць,***
***У Бога долі просяць.***
***— Дай, Божа, гэтаму дзіцяці***
***Шчаслівую долю.***
***Каб расло, гадавалася,***
***Шчасцем, доляю надзялялася,***
***З хлебам-соллю зналася.***

Што ні песня, дык з жыцця самога. А яно, жыццё, такое, што радасці месца ёсць. І роздуму час знаходзіцца. А калі весяліцца пачынаюць за бяседным сталом, прыходзіць момант, калі жадаецца праспяваць тое, што дазволіць забыцца пра будні турботныя.

***Ой, да на радзінушках***
***Калі я ўпілася***
***І дадому ледзь прывалачылася.***
***Цёмным лесам ішла, не баялася,***
***У чыстым полюшкі не маталася.***
***Ой, да на сваём дварэ нагнулася,***
***На калюшку я павалілася.***
***— Ой, калюшка, калюшка, ты калюшачка,***
***Павяліла мяне, бабу п'яную.***

А ўсяго ў томе песень... Колькі б вы падумалі?! Ажно 730! Які неацэнны скарб, якое багацце! І гэта, зразумела, толькі тое, што тычыцца радзіннага абраду. І пасля ўсяго знаходзяцца яшчэ тыя, хто сумняваецца ў таленце свайго народа, гатовы ўспрымаць яго перад іншымі народамі ўсяго-наўсяго "малодшым братам". А "брат" гэты такі, што любога за пояс заткне, калі песню заспявае, танцаваць пачне. А адпачыўшы добра, належным чынам і за працу возьмецца.

**А. М.**

ДРУК

# Калосьсе", N 7

Выйшаў з друку чарговы, сёмы, нумар літаратурна-мастацкага альманаха "Калосьсе". У ім змешчаны ўрывак з рамана класіка венгерскай літаратуры XIX стагоддзя Мора Ёкая "Сыны чалавека з каменным сэрцам" (пераклад палачаніна Міколы Ермалаева); своеасаблівы маніфест пецярбургскай літаратурнай групы "Серапіёнавы браты" аўтарства Льва Лунца; апавяданне "Крыж" Марэка Гласка (польскі пісьменнік-дысідэнт, якога камуністычныя ўлады Польшчы ў 1958 годзе выдварылі з краіны; Гласка ўпершыню перакладаецца на беларускую мову), апавяданне "Забойства" албанскага празаіка Дрытэры Аголы. У альманаху таксама можна прачытаць вершы Ігара Сідарука, Юрыя Гуменюка, Леры Сом, Галы Гары, Васіля Дзівашэвіча; з прозай выступаюць Алесь Аркуш, Вінцэсь Мудроў. Друкуецца першая кніга рамана Вітаўта Чаропкі "Поўны керкешоз", гутарка Алеся Аркуша з вядомым украінскім філосафам і эсэістам Тарасам Вознякам, успаміны Івана Фурсевіча, былога вязня ГУЛАГа, эсэ Сяргея Шыдлоўскага "Абзацы", інаўгурацыйная прамова Уладзіміра Арлова, якую ён агучыў падчас уручэння яму літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес", нататкі пра літаратуру "За новыми кратами" Лявона Вашко. Апублікаваны рэцэнзіі Ганны Кісліцынай, Сяргея Шыдлоўскага, Алены Красоўскай, Васіля Крoквы.

**А. К.**

*...А выслухаўшы споведзь
лістапада,
Я светла пазайздросціў чысціні,
І ў свет людскі, дзе помслівасць
і звады,
Мне штось не захацелася ані.*

•

*То вецер дзьме, а то дажджыць,
То промні радасці, то слоты.
Ужо стаміліся мы жыць
На сумных выспах адзіноты.*

*На лёгкаплыннае рацэ
Ільдамі таюць зімы, леты;
Пярсцёнак на тваёй руцэ
Чужымі пальцамі сагрэты.*

*І мы, любімая, з табой
Спатканняў захаваўшы цноту,
Навек асуджаны журбой
На пачуццё і адзіноту.*

•

*У словах мы хаваемся ад быту,
Убоскасці душэўнай і маны.
З табой ідзём увосень, а нібыта
Ужо на ўваходзінах вясны.*

*Але ад жоўтых лісцяў не схавацца,
Ад восеньскіх пранізлівых вятроў.
Я, ведаеш, стаміўся прытварацца,
Таму і трачу блізкіх і сяброў.*

*І з пачуццём прасветленага смутку
Пачну цябе я з далечы гукаць.
Ямчэ хачу прайсці па першапутку,
Вось толькі дзе яго мне адшукаць...*

## На смерць паэта Міхася Кушнярова

*Паэт паміраў у адзіноце,
У шэрага дня маркоце.
Жыцця гнятлівая стома
Не дала дайсці да дому
(Да пустое, папраўдзе, хаты).
Каму баліць гэтая страта?
Як падаў паэт, землякі
Не паспелі падаць рукі.
І зямля, ім апетая,
Закурыла туманам,
Нібы дзеўка гарадская цыгарэтаю...
На хаўтуры глядзела разгубленай маткай
Родная вёска Плюватка...*

•

*Т...
Ты вясёлая такая,
Вершаў табе — не чытаю...
У іх туга, журба, пакута —
Не будзь ты да іх прыкута.
Ты лепш смейся ў сваім куце
І не ведай аб пакуце!*

*тысяч абыякавых фаліянтаў —
там таксама не шукайце мяне.*

*Шукайце мяне там,
дзе жыццё губляе свой сэнс,
там, дзе пануе вечная восень,
там, дзе магіла мая ёсць.*

## Стары млын

*Каля рачулкі безназоўнай
у светлай вотчыне маёй
ёсць млын стары, ад вока схоўна
спавіты даўнінай нямой.*

*Ён тут спрадвеку. Невядома,
хто збудаваў яго і як.
Не раз, паўдзённай гнаны стомай,
спачыць сюды прыходзіў я.*

*Рабілася світальна, добра,
і цёпла неяк на душы
у гэтых сценах прахалодных,
у гэтай нерушнай цішы.*

*Калісь было: прыспаў змярканне,
і падхапіўся сярод зор,
як быццам хтось у сне параніў,
па нерву паласнуў лязом.*

*Прыўзняўся, хутка звык да змроку,
паслухаў ценькі цёк вады,
і праз рыпенне крохкіх крокваў
чыесьці крокі ўчуў тады.*

*І нехта чорны, велізарны
мне прама ў вочы зазірнуў.
Сваім паглядам змрочным,
хмарным
ён мне душу перавярнуў.*

*З тае пары я беззваротна
закуты ў стылыя ільды,
а у душы, пустой і мёртвай,
сціхотна да жуды заўжды.*

ПРОЗА

# КАМАР ВЕНІКІ ВЯЗАЎ

Франц СІЎКО



ГУМАРЫСТЫЧНАЕ АПАВЯДАННЕ

Віталь Андрэевіч суцішыўся, замёр пад коўдраю. Камар на гэты раз праляцеў так нізка над ягоным тварам, што ён, здалося, адчуў шчакою дотык крылцаў. Счакаўшы, пакуль жамярына сядзе, Віталь Андрэевіч рэзка выпрастаў руку, ляпнуў сябе па лбе. І амаль адначасова шчоўкнуў другою ўключальнік таршэра. Камар, маленечкі, зусім несамавіты, разгублена папятляў колькі хвілін на святле і тут жа знік у запавуціненым праёме між ложкам і шафаю.

Тым часам загарэлася святло ў адным з вокнаў у доме насупраць. Зграбная маладзіца з ручніком вакол галавы, размахваючы рукамі, кружылася па пакоі, нібы танцавала. Твару яе разглядзець было нельга, а вось мухабойку ў руках Віталь Андрэевіч заўважыў адразу. "Таксама ці не камар'ё дапякло", — падумаў і ўсміхнуўся: тая акалічнасць, што не аднаму яму блага, чамусьці дадала бадзёрасці.

Ягоны камар прыкметаў жыцця не падаваў. Мабыць, чакаў, стаіўшыся, калі гаспадар зноў выключыць святло.

І ён выключыў. Але не паспеў і некалькі хвілін паляжаць спакойна, трызнячы пругкімі грудзьмі студэнткі Мішчышынай, як зноў пачуў ля самага вуха працаўны манатонны піск. Камар не марудзячы спікіраваў ніжэй і нахабна кусянуў Віталя Андрэевіча за голае плячо.

Грудзі студэнткі Мішчышынай здранцвелі, рассыпаліся ў друз. Віталь Андрэевіч перавярнуўся на бок, дацягнуўся рукою да ўключальніка. Напалоханы святлом камар імгненна знік у міжсценні пад дываном. Віталь Андрэевіч падхапіўся з пасцелі, пачаў абмахваць ложак і яго ваколіцы складзенаю ўдвая газетаю ў надзеі прымусіць нягодніка пераляцець на больш адкрытае месца.

Аднак камара нібы карова языком злізала.

Згубіўшы ўсялякую надзею на поспех у справе гвалтоўнай перадыслакацыі насякомага, Віталь Андрэевіч у адчаі перавёў пагляд на суседні дом. Там таксама гарэла святло, але ўжо ў іншай кватэры. Трыбухаваты дзяцюк у квяцістых трусах, накруціўшы на далонь нейкую лашыну, са звераватым выразам твару гойсаў па пакоі ў пошуках крыўдзіцеля.

Ходзікі над тэлевізарам паказвалі палову трэцяй.

Віталь Андрэевіч шпурнуў газеціну на падлогу, зноў кульнуўся ў ложак. Палова трэцяй! У восем пачынаюцца заняткі, дык як ён будзе выглядаць у аўдыторыі?

Напамін аб занятках і асабліва аб студэнтцы Мішчышынай канчаткова растрывожыў ягоны і без таго растузаны бяссоннем мозг. "Што рабіць?" — задаваў ён сабе пытанне і ніяк не мог знайсці на яго адказу. Думкі, хаатычныя, бязладныя, раіліся ў галаве, не адважваючыся афарміцца ў штосьці дакладнае, патаналі адна ў адной.

Як ён ўсё-ткі здурнеў, адчыніўшы фортку ў той час, калі ўсе наўкола спалі? У яго ў аднаго гарэла святло, вось гэты праклятьі крывасмок і заляцеў на агеньчык. Злосць на камара і на самога сябе зноў ахапіла Віталя Андрэевіча. Трэба ж: выкапаць яму, каб пасля ў яе зваліцца! Зрэшты, у яго ўсё жыццё гэтак, па лініі найменшага супраціву. На трэцім курсе закахаўся ў дзяўчыну-гуцулку, а яна аказалася уніяткаю, і ягоная маці забараніла сустракацца. Пераадолеў сябе, кінуў Алесю. Дзяўчына з'ехала ў свой Ужгарад, а ён так больш нікога і не ўпадабаў. Ці яшчэ вось. Юнаком захапляўся філалогіяй, а паступіў у медыцынскі, бо бацька, тады загадчык раённага аддзела аховы здароўя, настояў. Сказаў, уладкуе без праблем, і ён згадзіўся. Як ні карцела на філфак, стаў вучыцца на лекара. У выніку — доктар, участковы эскулап. Праца — адна пісаніна і ніякае творчасці. Добра, днямі пазванілі з роднеькай альма-матэр, папрасілі правесці колькі заняткаў па агульнай тэрапіі — хоць нейкае адхланне. Там, у інстытуце, дарэчы, ён, 33-гадовы халасцяк, і Мішчышыну спаткаў.

Алчайная дзеўка. Першы раз уляцела ў аўдыторыю хвілін праз дзесяць пасля званка. "Што ж спазняецеся? — пачаў ушчуваць. —Вось выключаць з інстытута, тады будзеце ведаць". — "Мяне? Выключаць? — зрабіла круглыя вочы. — Дзеля таго я, філфак кінуўшы, сюды з трэцяга заходу трапіла, каб зараз выключылі? Не!" — "Дык вы на філфаку вучыліся? Я калісьці хацеў паступіць..." — "Дык чаму ж не паступілі?" — "Э-э..." — ён запнуўся, не ведаючы, што адказаць, перапыніў размову. Але сама дзяўчына так яму спадабалася, што ён знарок, каб ліцні раз зірнуць на яе паставу, калі будзе вяртацца ад кафедры да свайго месца, даручыў ёй зрабіць да наступных заняткаў невялікае паведамленне.

І вось — камар, ненажэрнае стварэнне...

Недзе з паўгадзіны ён праляжаў спакойна і пачаў ужо засынаць, як раптам пачуў над вухам усё той жа знаёмы працаўнік дыскант. Камар, дарэшты, вілаць, згаладнелы, кружыў над чалавекам, не зважаючы на святло.

Віталь Андрэевіч у роспачы скінуў з сябе коўдру, ускочыў з ложка. Камар тае ж хвіліны перастаў звінець, расстаяў у паветры, нібы яго й не было. Віталь Андрэевіч захінуў на жываце халат, падышоў да акна.

На дварэ было цёмна, толькі рэдкія аўто, праразаючы фарамі густую цямрэчу, імкліва вынырвалі з тунеля і тут жа зніклі ў бліжняй лесапасадцы.

Ён у адчаі прыхінуўся лбом да халаднаватай шыбы. Божа, калі скончыцца гэтая пакута, гэтая ноч? А як скончыцца, на каго ён будзе падобны? Апошняя думка вярнула яго да рэальнасці. Ён адарваўся ад шыбы, пачаў метадычна, сантыметр за сантыметрам, даследаваць вачамі столь пакоя. Не знайшоўшы таго, што шукаў, ліхаманкава перавёў пагляд на сцяну. Абгледзеўшы і яе і ўпэўніўшыся, што камара няма, узяў газету, пачаў вымахваць ёю куткі па-за мэбляю.

Камара не было. Але ж ён дакладна сядзеў дзесьці побач і чакаў зручнага моманту, каб, як толькі чалавек ляжа, пра сябе нагадаць.

Зноў успыхнула святло ў доме насупраць. Віталь Андрэевіч хіснуўся назад ад акна і знерухомеў ад нечаканасці. Маладзіца з ручніком вакол галавы ляжала на канапе і старанна загортвала сябе з усіх бакоў, бы коканам, прасцінай. Ні шыі жанчыны, ні яе ног — нічога ўжо не было відно, апроч вузкай палоскі на жываце, накшталт той, што пакідаюць хірургі падчас аперацыі, ды далоні з выключальнікам. Затым святло пагасла.

Віталь Андрэевіч вярнуўся да свайго ложка. Таемныя дзеянні маладзіцы яго заінтрыгавалі. Ды не настолькі, каб прасядзець рэшту ночы зусім без сну. Але калі зноў успыхнула святло над суседнім балконам, ён не раздумваючы кінуўся да акна.

Жанчына ляжала на ранейшым месцы і выціраla анучкаю кроў на незакрытым прасціною лапіку цела. Дык вось што яна зрабіла: звузіла поле дзеяння насякомага да мінімуму, а потым знішчыла яго адным-адзіным жэстам! Геніяльнасць як вынаходніцтва так ашаламіла Віталя Андрэевіча, што ён яшчэ доўга не мог варухнуцца, як зачараваны глядзеў на жанчыну з-за гардзіны. Затым кінуўся да свайго ложка — з цвёрдым намерам зрабіць тое самае, што зрабіла яна.

Але было позна, на дварэ раптоўна развіднела, час быў збірацца на працу. Ды і распачынаць нанава паляванне не мела сэнсу: камар, як яго ні выманьвай, пры дзённым святле са схову не вылезе. І Віталь Андрэевіч, падакараўшы сябе за някемлівасць, пасунуўся ў ванны пакой галіцца.

•

Калі ён увайшоў у аўдыторыю, студэнтка Мішчышына ўжо сядзела за партаю і аб нечым размаўляла з суседкаю. Твар яе быў бледны, рухі запаволеныя, як з недасыпання. Убачыўшы Віталя Андрэевіча, яна падышла да яго.

— Прабачце, я не падрыхтавала паведамленне, — сказала, нібы незнарок датыкаючыся грудзьмі да ягонага пляча.

— Чаму? — напускаючы на сябе строгасць, спытаў ён.

— З-за камара, — адказала яна. — Дзве ночы не даваў заснуць. Але ўчора я ўрэшце яго ўпалявала. А вашы справы як?

— Мае — так сабе, — збіты з панталыку яе прызнаннем, а яшчэ больш — здагадкаю, што жанчынай у кокане і была яна, Мішчышына, і што яна бачыла, як ён гойсаў голы сярэдначы па пакоі, адказаў Віталь Андрэевіч і скрушліва дадаў: — Параілі б, як палепшыць.

— О, гэта нескладана! — Яна рашуча трасянула галавой, дастала з сумкі візітоўку. — Вось мой адрас, калі што — званіце, буду рада дапамагчы. А яшчэ лепш — заходзьце, вы ж ведаеце, дзе я жыву. Пагамонім, чаю пап'ём. І галоўнае — памятайце: за камаром не ганяюцца з тапарам.



Малюнак Фёдара ЛЯХНОВІЧА

— **Але наколькі глыбока можа спасцігнуць усе тонкасці індыйскага музычнага мыслення чалавек з традыцыйным еўрапейскім выхаваннем?**

— Відаць, усё залежыць ад ступені залучанасці ў дадзеную культуру і ад гатоўнасці чалавека да ўспрымання яе не як "экзотыкі", але знутры. З амаль што двухсотгадовай практыкі засваення заходнімі людзьмі індыйскай культуры вынікае, што кожны "п'е з гэтай чароўнай крыніцы столькі, колькі схоча. Можна, напрыклад, заставацца на пазіцыі баковага назіральніка: маўляў, гэта вельмі цікава, але надта спецыфічна, таму — не наша. Але можна заставацца еўрапейскім музыкантам і адначасова не менш глыбока адчуваць хараство індыйскай музыкі. Такі шлях прайшоў, напрыклад, выдатны музыкант Ягудзі Мянухін, адзін з першых еўрапейцаў, хто прапагандаваў індыйскую музыку. Як вядома, у XX стагоддзі індыйская музычная культуры ўпершыню выйшла за свае геаграфічныя межы і зрабілася надзвычайна папулярнай у Еўропе і ЗША, дзе ўзгадавалася цэлае пакалення музыкантаў, якія з поспехам дэманструюць цудоўнае майстэрства як у сябе на радзіме, так і ў Індыі.

Прафесійна-навуковая ўвага да індыйскай музыкі на прасторах былога СССР з'явілася значна пазней, чым, напрыклад, цікавасць да індыйскіх моваў, літаратур, выяўленчага мастацтва, вывучэннем якіх заняты навуковыя інстытуты, кафедры і да т. п. (напрыклад, усходазнаўства ў Расіі налічвае амаль 200 гадоў). Музычная ж культура Індыі, у выніку розных абставін, толькі цяпер заваёўвае ўвагу прафесійнікаў. Адзін з бадай што нямногіх асяродкаў такога кшталту знаходзіцца ў Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі. З пачаткам маёй працы ў Беларускай акадэміі музыкі (1991 г.) мной быў распрацаваны і чытаецца спецкурс "Музычныя культуры свету", асноўная задача якога — увесці маладых беларускіх музыказнаўцаў і выканаўцаў розных спецыяльнасцяў у свет музычных культур па-за межамі Еўропы. Ганаровае месца тут — за Індыяй.

Вывучэнне музычных культур свету, зразумела, накіроўвае нас да новага бачання месца і сутнасці еўрапейскай культуры ў шэрагу іншых. Гэта ў сваю чаргу спараджае ў сучаснай навуцы тыя метадалагічныя пазіцыі, якія прызначаны да грунтоўнага ўсведамлення феномена музычнай культуры як адмысловай сістэмы. Такім чынам, актуальныя для нас праблемы маюць культуралагічнае адценне, і на гэта арыентуюцца студэнты майго спецкласа. Для плённай працы са студэнтам абавязкова павінен усталявацца духоўны і творчы кантакт, яшчэ да моманту афіцыйнага размеркавання ў спецклас. За гады выкладання я так і не навучылася трымаць навучэнцаў на адлегласці ад сябе (вынік зносін з індыйскай культурай). Менавіта таму (і гэта ведае кожны, хто ідзе ў мой спецклас) я патрабую аддансці абранай тэме, а не сабе. Я ніколі не навязваю студэнту свае тэмы ці меркаванні: больш значным для мяне з'яўляецца раскрыццё творчай індывідуальнасці кожнага вучня, ягоных унутраных памкненняў, магчымасцяў. Важна гэта адчуць і не задушыць яго ў сваіх "навуковых абдымках".

А самае гарачае жаданне — захапіць сваёй справай як мага болей людзей. Хочацца, каб музыка ўсяго свету была ў такой жа ступені даступнай маім суайчыннікам, як і многім людзям за мяжой, каб часцей адбываліся канцэрты музыкі індыйскай, японскай, кітайскай... Хочацца больш шырокага доступу да навуковай інфармацыі пра розныя культуры свету і актыўных кантактаў з іх прадстаўнікамі не толькі на Беларусі, але і на іхняй радзіме... Свет разнастайны, цудоўны і хочацца, каб гэта адчулі многія.

**Гутарыла Наталля ШЫЦЬКО**

зразумела, грунтаваліся на складанай, асабліва ў сённяшняй фінансавай сітуацыі, арганізацыйнай і творчай працы.

Дзякуючы дапамозе маскоўскага прадзюсерскага цэнтра, якім кіруе Юрый Саульскі, арганізатары фестывалю парадавалі публіку яркім джазавым вакалам: з Біг-бэндам М. Фінберга выступіла германская госця Паскаль фон Ураблеўскі.

Само яе прозвішча сведчыць пра багаты радавод. (І сапраўды: прадзед — генерал Парыжскай камуны; бабуля супрацоўнічала з Б. Брэхтам; бацька — гітарыст, рэжысёр, кампазітар, драматург; маці — чынніца першых неафіцыйных выставак у ГДР; дзядзька — вядомы не толькі ў Германіі перакладчык Ж. П. Сартра.)

А яе багаты голас гаварыў сам за сябе. Нездарма яна з 15-гадовага ўзросту на сцэне, нездарма паспяхова гастралюе і за межамі Германіі, у ансамблі з вядомымі музыкантамі, нездарма выступае ў спектаклях, уключае ў рэпертуар джазавую класіку, амерыканскія спірычуэлс і госпел, песні розных народаў. "Абаяльная пышка" Паскаль, якая кантактавала з публікай не толькі праз яе гарачыя і магутныя спевы, а і праз неблагую рускую мову, мела паспяховы дэбют у партнёрстве з нашымі музыкантамі і многім з іх нават выказала публічную ўдзячнасць.

●

Зоркам беларускай інструментальнай джазавай музыкі давялося "ззяць без антракта" і ў першы вечар, калі выступала наша госця, і назаўтра, калі праграмай "Віртуоз трамбона" ўшаноўвалася майстэрства аднаго з вядучых салістаў аркестра — Дзмітрыя Бударына. Гэта быў яго бенефіс, які, паводле добрай традыцыі, прагучаў як бенефіс усяго аркестра-працаўніка. У цёплай музычнай атмасферы было нямала кранальных сюрпрызаў. Але галоўная "кранальная адметнасць" была вядомая загадзя: на афішы гэтага вечара значылася імя госця, яшчэ аднаго Бударына — Віктара, вядомага расійскага артыста, дацэнта Растоўскай кансерваторыі, трамбаніста, бацькі нашага шаноўнага бенефіцыянта.

●

Прадуманая драматургія заключнага фестывальнага вечара дазволіла "разагрэць" публіку і дадаць да яе ўражанняў некалькі яркіх сакавітых штрыхоў.

Адбылося досыць грунтоўнае знаёмства з DTS-band, інструментальнай групай, якая працуе ў структуры Дзяржаўнага канцэртнага і якой кіруе Аляксандр Каліноўскі — гітарыст, аранжыроўшчык, кампазітар. З ім разам іграюць Дзмітрый Бударын, саксафаніст Ігар Мішура, ударнік Андрэй Славінскі ды клавішнік Альберт Кандрач'ян, які нядаўна прыйшоў працаваць у аркестр (у праграме канцэрта, дарэчы, прагучала і яго "Легенда", складаная кампазіцыя, прасякнутая каларытнымі ўсходнімі матывамі). Адметнасць маладой суполкі, ужо ўпадабанай і нямецкай публікай, вядома ж, не ў высокай тэхнічнасці яе ўдзельнікаў (гэта — як і мае быць), а ў арыгінальным рэпертуары, які ставарае А. Каліноўскі. Рамантычныя "Нябёсы, якія танчаць", інтэлектуальная "Бясконцая размова", густоўнае "паганскае свята" з перапляценнем беларускіх народных купальскіх песенных тэм (гэтая кампазіцыя, дарэчы, звярнула на сябе ўвагу яшчэ падчас леташняга міжнароднага джазавага фестывалю)...

А госці з Летувы, джаз-секстэт, што граў музыку свайго лідэра, клавішніка Дэйніюса Пулаўскаса, паказалі клас сапраўдных асаў, якіх даўно ведаюць і прымаюць на прэстыжных джазавых фестывалях Еўропы, Амерыкі, Азіі.

●

Між іншым, мінскі джазавы фестываль справіў сваё наваселле: яго канцэрты ўпершыню прайшлі ў Палацы Рэспублікі, у камернай зале. Было цёпла і ўтульна. Здаецца, з кожнага крэсла паўкруглага амфітэатра добра было відаць, што робіцца на сцэне. А чуваць — чуваць таксама было адусюль. Часам і занадта: магутнаму гучнаму тутці ў камерных сценах бывае цеснавата... Але — жывое, сапраўднае гучанне, вось што ўсцешна, каштоўна!

Бадай, гэта яшчэ адно агульнае і прынцыповае ўражанне: жывы гук фестывальных канцэртаў. У джазе гэта — закон. І ў Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі, незалежна ад жанру праграм, **жывы** гук — таксама закон.

Іграе Біг-бэнд, і цябе нібыта паглынае магутная гарачая жывая хваля, прасякнутая сонечнымі промнямі ды мігатлівымі вясёлкавымі іскрынкамі. А насамрэч іх не так і многа, стваральнікаў гэтай гукавой хвалі: чатыры трубы, чатыры трамбоны; пяць саксафонаў; дзве гітары, два музыканты-ударнікі; адзін клавішнік. І адзін Фінберг. Які сам вёў канцэрты: і дырыжор, і каментатар. Які ніколі не шкадуе перад публікай добрых слоў, каб падтрымаць сваіх падзвіжнікаў (і падзвіжнікаў!): Валерыя Шчарыцу, Дзмітрыя Бударына, Ігара Мішуру, Віталя Ямуцеева, Сяргея Анцішына, Канстанціна Гарачага, Аляксандра Каліноўскага, Андрэя Славінскага. Усіх-усіх іншых музыкантаў. А таксама тых, хто афармляе сцэну, забяспечвае рэжысуру гуку ва ўмовах "глухой" неакустычнай залы...

Дзякуй спонсарам, чыя фінансавая падтрымка дапамагае фестывалю захоўваць статус міжнароднага і наладжваць, хаця й сціпла па кольскасці, але годныя па якасці выступленні гасцей. Што да сваіх музыкантаў — яны "адпрацоўваюць зарплату". Смешную, як і ва ўсіх чыннікаў айчыннай культуры.

Гэта я — зноў пра любоў. Да людзей мастацтва. Да мастацтва. Да музыкі. Да жывога гуку.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: імгненні фестывалю.*
*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

КІНО

# Рэйнджэры з атамнай зоны

У сусветным кінематографе слова "зона" набыло сімвалічнае значэнне пасля фільма А. Таркоўскага "Сталкер". Зону, поўную цудаў, з аповесці Стругацкіх "Сняданак ля дарогі" рэжысёр нечакана зрабіў месцам стасункаў з Космасам. "Гэта самае ціхае месца ў свеце, — казаў Сталкер пра Зону. — Тут усё такое прыгожае..."

Роўна праз дваццаць гадоў у кіно зноў загучала слова "зона": прэм'ера сумеснага расійска-беларускага фільма "Рэйнджэр з атамнай зоны" (рэж. В. Нікіфараў) адбылася акурат у гадавіну беларускага кіно, аднак фільм пакуль можна паглядзець толькі на відэакасетах. З прыгожага ціхага месца Зона ператварылася ў прастору адчужэння і смерці. Цяпер яе называюць чорнай дзіркай ці вялізным бермудскім трохкутнікам, дзе знікаюць людзі і дзе няма ўжо ніякага Бога. Да Зоны Сталкера трэба было прыслухоўвацца, быць асцярожным з ёю: яна не даравала эгаізму. Новая Зона — месца нежывое, маўклівае, небяспечнае. Крыкнеш — і адгукнуцца дзесяткі пустых дамоў, якія "звіняць" ад радыяцыі. Містычная Зона Сталкера — праваднікa ў Зону — ператварылася ў мёртвую Зону Рэйнджэра — ахоўніка яе атамнага бруду.

Стужку А. Таркоўскага "Сталкер" (1979) і карціну В. Нікіфарава "Рэйнджэр з атамнай зоны" (1999) тэматычна знітоўвае месца з "Адкрыцця": "...І вось сталася вялікае трасенне зямлі, і сонца счарнела, як валасяніца, і месяц зрабіўся бы кроў, і зоркі ўпалі на зямлю, як смакоўніца, патрэсеная моцным ветрам, скідае няспелыя смоквы свае. І неба схавалася, звіўшыся як сувой..." Адпачываючы ў Зоне, Сталкер чуе гэтыя словы ў сне. Рэйнджэр — з вуснаў нейкага вар'ята, які лямантуе, гледзячы проста ў камеру. Нікіфараў ужо разумее словы "Адкрыцця" літаральна, фіксуючы ў фільме вынікі Чарнобыля: будучыня стала яваю.

Што здарылася за гэтыя дваццаць гадоў, якія падзяляюць фільмы? Сталкеры — сцерліся з памяці. Некалі Сталкер не верыў, што тры чалавекі могуць знішчыць Зону. "Чаму не могуць? Могуць", — усміхаліся яго спадарожнікі. У фільме Таркоўскі даводзіў нечаканую для таго часу думку — чалавецтва, адрынуўшы веру, паступова знішчыць сябе. Без Зоны, як увасаблення Бога, у чалавецтва няма надзеі, няма будучага. Людзі ж спрычыніліся да лёсу Дзікабраза — Настаўніка Сталкера, які, здрадзіўшы Зоне, павесіўся. Яго нашчадкі сталі яшчэ больш саманадзейнымі. Дзякуючы ім і з'явілася новая Зона — атамная.

Зона Сталкера была жывой: тут шумеў вецер, цякла рака, крычалі птушкі. Тут лунаў Дух. У новай Зоне — шмат людзей. Нягледзячы на калючы дрот, яны ўпэўнена праклалі шлях да смерці. "Гэта дзяржава ў дзяржаве, — кажа адзін з яе жыхароў — тутэйшы рыбак. — У нас ёсць араты — гэта мы ці такія ж, як мы; воіны — мясцовыя рэкецыры, якім мы плацім даніну два разы ў месяц; купцы — свабодныя прадпрымальнікі, бізнесмены..." У Зоне ўжо не пахне кветкамі, а пахне наркотыкамі, таннымі духамі прастытутак, трупамі забітай жывёлы. Цяперашняя Зона — гэта прытулак бесклапотных самазабойцаў, невукаў, якія не баяцца ні чорта, ні Бога. Адны забіваюць забруджаных парсюкоў, робяць каўбасы ды прадаюць іх за межамі Зоны (бо іх хворыя страўнікі ўжо не прымаюць мяса). Іншыя ловяць рыбку, частуюць ёю сваіх дзяцей, што жывуць з бацькамі ў Зоне. Разам з жонкай Сталкер гадаваў дачку-мутанта, якая позіркам перасоўвала прадметы. Ці вераць у што-небудзь дзеткі з новай Зоны?

У кожнай Зоны — свае героі. У герояў — свае задачы. Акцёр А. Кайданоўскі з яго запамінальным тварам — вялікімі вачамі, вузкім носам — выдае Сталкера за стомленага прарока, духоўнага настаўніка. Ён — тонкі, шчыры, крыху меланхалічны чалавек, быў закаханы ў Зону, якую лічыў домам. Сталкер вядзе ў Зону двух чалавек: Прафесара і Пісьменніка. Адзін ідзе, каб здабыць веды, другі, каб выпрасіць натхненне. Сталкер вядзе ў Зону двух скептыкаў. Больш за тое — людзей, якія ненавідзяць адзін аднаго (па дарозе да пакоя, дзе здзяйсняюцца жаданні, Прафесар і Пісьменнік увесь час сварацца). Вядома, яны не павераць у цуд. Нездарма Сталкер упікае іх словамі Ісуса Хрыста: "О, няўцямныя і марудныя сэрцам, каб верыць..."



Акцёр А. Краўчанка — чырванашчокі прыгажун — сыграў Рэйнджэра-супермена. Ён не водзіць людзей у Зону, а сочыць, каб яны не пакралі радыеактыўныя адыходы, закапаныя на яе тэрыторыі. Капітан другога рангу (запасу) пераследуе наркакур'ераў, змагаецца з мафіяй, страляе, забівае. Рэйнджэр, як станоўчы герой, сапраўды захапляе: з жанчынамі ён высакародны рыцар, з ворагамі — непрымірымы баец. Ён добрасумленны гаспадар, палюбоўнік, абаронца сям'і, які паважае здаровы вобраз жыцця. Дзеля сустрэчы з Зонай Сталкер надоўга пакідаў сям'ю. Калі ён знікаў у гушчарах Зоны, спадарожнікі разумелі — у яго спатканне з Зонай. Рэйнджэр — персанаж прызямлены. Зона — яго абавязак, яго праца.

В. Нікіфараў паставіў фільм-экшн, даволі якасны (па нашых сродках) баявік. Акрамя гэтага, "Рэйнджэр з атамнай зоны" ўяўляе сабой дыхтоўнае народнае кіно: фільм складаюць эпізоды, разлічаныя на розныя густы: эратычна-сентыментальныя, гумарыстычныя, прыгодніцкія. Белае — гэта белае, чорнае — гэта чорнае. На экране — знаёмая сюжэтная мадэль: адзінокі Рэмба, прабачце, Рэйнджэр, перамагае дзесятак злосных бандытаў. Шкада, што ў фільме Нікіфарава ўсё спрошчанае, часам прымітыўнае, хоць адчуваецца, што рэжысёру хацелася сказаць больш пра атамную Зону. Толькі ці патрэбна гэта каму-небудзь (у "Рэйнджэра" — фільм належыць кінакампаніі "КінаМост" і Міністэрству культуры РБ — свае таямніцы). Новая карціна пра Чарнобыль магла б быць цікавым, аўтарскім роздумам пра трагедыю, а ўяўляе сабой — баляванне падчас чумы. Нам трэба плакаць, а нас вымушаюць смяяцца. Нам трэба думаць, а нам прапаноўваюць бяздумна сачыць за сюжэтам. Нам неабходны Сталкер, а нам раяць ганарыцца Рэйнджэрам. Ён, вядома, малайчына, але ці выратуе яго зброя ад радыяцыі?

У фільме Нікіфарава занатавана прыгожая гісторыя: у народзе кажуць, што раней, калі да мястэчкаў набліжалася чума, ноччу вакол сваіх дамоў аралі зямлю аголеныя жанчыны. Лічылася, што баразна вакол мястэчка выратуе ад усіх хвароб. Не выратавала. Некалі падчас здымак "Сталкера" Таркоўскі сказаў: "Усё павінна адбывацца зараз, як быццам Зона ўжо існуе дзесьці побач з намі". Зараз побач з намі дзве Зоны — жывая і мёртвая, выратавальная і атручаная. Галоўнае сёння зразумець, якая з іх нам бліжэй.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымку: Рэйнджэр — А. КРАЎЧАНКА.*

ВЫСТАВЫ

# Радасць жыць і тварыць

Мастак Канстанцін Мікалайчук па прафесіі ўрач-псіхатэрапеўт, школьны псіхолаг, народны лекар. Нарадзіўся ён у сям'і каваля ў вёсцы Шастакова Камянецкага раёна. Яшчэ з дзяцінства адчуў цягу да малявання, таму наведванне мастацкага гуртка ў Доме піянераў пад кіраўніцтвам Міхася Сяргеевіча Талмачова было зусім апраўданым, як і паступленне і вучоба ў Адэскім мастацкім вучылішчы. Ужо пасля тэрміновае службы была вучоба ў Крымскім медыцынскім інстытуце. І праз усё жыццё побач былі пэндзаль і мальберт. Падставаю для згадвання штрыхоў біяграфіі Канстанціна Мікалайчука стала адкрыццё ягонай выставы акварэльнага жывапісу ў Брэсцкім абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі.

На выставе прадстаўлена сто карцін. Асабліва ўражваюць гледача цыклы "Гэты Дзень Перамогі", "Салдацкія ўдовы", аўтапартрэт і партрэт М. Талмачова — настаўніка К. Мікалайчука, вобразы самых дарагіх кожнаму чалавеку людзей — бацькі, бабулі, дзядулі. Найбольш на выставе партрэтаў простых людзей, нашых сучаснікаў, такіх розных па прафесіі — трактарыст і выхавальнік дзіцячага садка, урач і аграном, старшыня калгаса...

**Уладзімір ТАРАСЮК**

# Авангард на фоне самалётаў

***5 студзеня ў шкляным корпусе аэрапорта "Мінск-1" адбывалася незвычайнае дзейства. Уручаліся дыпломы пераможцам конкурсу "Супер-вобраз XXI стагоддзя — Гук. Колер. Форма." Мы папрасілі падзяліцца сваімі ўражаннямі тых, хто прымаў непасрэдны ўдзел у гэтай акцыі.***

**Саша ВАРЛАМАЎ,**
**прадзюсер, каардынатар праекта:**

— Я задаволены практычна ўсім. Папершае, удалося ўпэўніць у неабходнасці такой акцыі кіраўнікоў дзяржавы, мы атрымалі падтрымку Белдзяржуніверсітэта, пад эгідай якога праходзіў конкурс, вельмі дапамагла адміністрацыя Кастрычніцкага раёна і кіраўніцтва аэрапорта.

Сёння можна згадваць асобныя дробныя хібы ў арганізацыі, некаму магло не спадабацца афармленне. Магчыма, нехта будзе не задаволены тым, як выглядалі на фоне іншых яго ўласныя працы. Аднак, калі б спадабалася ўсё і ўсім, — гэта быў бы грандыёзны правал. Калі б імпрэза спадабалася толькі людзям, якія сядзяць у кабінетах, — гэта таксама быў бы правал. Бо моладзь у любыя часы выказвала праз мастацтва свой пратэст супраць традыцый старэйшага пакалення. Акцыя праводзілася дзеля таленавітых юнакоў і дзяўчат, і яны адчувалі гэта — не было асобна гледачоў і выступоўцаў, не было пасіўнай публікі, яны падымаліся на сцэну з залы і вярталіся туды зноў.

Я шчаслівы тым, што атрымалася галоўнае — мы даказалі, што творчыя людзі, маладыя архітэктары, літаратары, музыканты, прадстаўнікі народных калектываў, здольныя працаваць разам. Мы якраз і хацелі прадставіць маладых творцаў адзін аднаму, пазнаёміць іх праз творчасць, бо сапраўдны твар чалавека — гэта і ёсць яго творчасць.

На мой погляд, нацыя развіваецца не тады, калі ўсе скачуць пад адну дудку. Беларусь — гэта еўрапейская краіна, і культура наша павінна быць гэткай жа. У ёй трэба знайсці месца і традыцыі, і авангарду. Засілле традыцый — дыягназ слабога развіцця. Таму так важна дапамагчы моладзі выявіць сябе ў сваёй краіне, даць ім магчымасць быць заўважанымі ўжо сёння.

Вынікам нашай акцыі, якая будзе цягнуцца яшчэ паўтара года, стала згода Мінгарвыканкама выдзяліць месца ў Мінску, і не адно, а некалькі, на якіх будуць праектавацца будынкі, дзе моладзь зможа прадстаўляць сваю творчасць. Існі ў зафармалізаваную ўстанову культуры з наватарскімі ідэямі, ідэямі сінтэзу — надзвычай цяжка. Мастацтва і афіцыёз — несумяшчальныя рэчы. У Мінску няма ніводнага памяшкання, дзе б можна было прадстаўляць працы студэнцкай моладзі. Ніводнага! Гэта ўсё будынкі афіцыёзныя, разлічаныя на, з аднаго боку, сцэну, з другога — пасіўных гледачоў.

Я вельмі ўдзячны за падтрымку Дзяржкамітэта па авіяцыі, адміністрацыі аэрапорта. Калі б праводзілі гэтую акцыю ў начным клубе, то што можна было б унесці ў інтэр'ер начнога клуба новага, не буржуазнага па сэнсе, студэнцкага, наватарскага? Тры гады назад мне давялося працаваць у Дзюсельдорфе, куды я прыехаў са сваімі мадэлямі. Я быў вельмі здзіўлены, калі даведаўся, што мы будзем паказваць праграму на заводзе "Райн метал", які ў 1939 годзе выпускаў "Тыгры". Там рассунулі абсталяванне, вызваленую прастору заслалі белым пластыкам, паставілі подыум, запрасілі семсот нямецкіх спецыялістаў па эстэтыцы... У той момант, калі побач працавала тэхніка, краны, адбыўся наш паказ мод. Было надзіва вострае адчуванне сучаснай моды, уражанне навізны, ад таго, што паказ адбываўся ў нетрадыцыйным месцы. Тое самае мы хацелі зрабіць у аэрапорце. Першапачатковая ідэя была правесці імпрэзу ў ангары авіярамонтнага завода, каля напаўсабранага самалёта... Чаму аэрапорт, чаму самалёты? Бо гэта сімвал адрыву ад зямлі, ад рэальнасці...

Калі я згадваю гэтае мерапрыемства, першы і ледзь не адзіны непрыемны ўспамін — міліцыя. З аднаго боку, так, міліцыянер дазволіў сабе стаць рэжысёрам. Людзі не змаглі атрымаць пры ўваходзе, як задумвалася, карнавальныя маскі, на працягу шасці гадзін не змаглі дазволіць сабе бакал піва. Калі гаворка ідзе пра вяршкі творчай моладзі, а сабраліся сапраўды таленавітыя, адораныя людзі, — то варта было б ім давяраць. З другога боку, я разумею, што трагедыя Нямігі яшчэ не забытая. Кіраўнікі перастрахаваліся, бо яны не хацелі, каб яшчэ раз загінулі дзеці, і якія дзеці — лепшыя! Можна лаяць міліцыю, а можна станавіцца на пазіцыю адміністрацыі, разумець гэта як наступствы таго, што адбылося вясной. Тыя, хто скардзяцца, павінны падумаць, а калі б іх дзіця было там, ці пратэставалі б яны супраць прысутнасці міліцыі. Хутчэй за ўсё — не.

---

**Ганна КІСЛІЦЫНА,**
**крытык, член журы па літаратурных намінацыях:**

— Чалавеку, які вандруе са звышгукавой хуткасцю ці з хуткасцю кулі, цяжка ўсвядоміць, што такое абражаны гонар, табель аб рангах, чыйсьці сум па разбуранай сялібе, развагі пра самотнае дрэва ці двухсэнсоўнасць малітвы... Пры ўсёй павазе да І. Бродскага, які выказаў гэтую думку ў дачыненні да літаратуры папярэдняга стагоддзя, не магу з ёю пагадзіцца. Так, імкліва мяняецца лексіка, з'яўляюцца іншыя спосабы версіфікацыі, узнікаюць новыя прынцыпы пабудовы твора, пераасэнсоўваюцца законы фарматварэння, аднак самі творцы мяняюцца мала, таму і мастацтва, незалежна ад таго, авангарднае яно ці традыцыйнае, не мяняе сваёй сутнасці.

Яшчэ раз упэўнілася ў гэтым падчас работы журы па літаратурных намінацыях акцыі "Супервобраз XXI стагоддзя — Гук. Колер. Форма." У конкурсе прынялі ўдзел маладыя людзі з усіх куткоў Беларусі. Вельмі прыемна, што сярод пераможцаў былі не толькі мінчукі, але і жыхары Гародні, Полацка, Кобрына — гэта сведчыць пра тое, што нягледзячы на ўсе акалічнасці нашага сённяшняга жыцця, агульнанацыянальнае культурнае поле пашыраецца.

Працаваць у журы было і прыемна і складана. Прыемна, апярэдзіўшы ўсіх, пабачыць літаратурнае аблічча наступнага стагоддзя, пазнаёміцца з пачаткоўцамі, што даслалі свае першыя тэксты на клятчастай паперы вучнёўскіх сшыткаў. Прыемна апынуцца ў коле людзей, якія я паважаю як прафесіяналаў, людзей, заангажаваных ідэяй стварэння новай літаратуры, тых, хто робіць стаўку на моладзь. Абмеркаванне ішло бурна — не толькі першыя і другія, а нават заахвочвальныя прэміі выклікалі гарачыя спрэчкі. Асобныя творы чыталі ўголас і тут жа абмяркоўвалі. У выніку па асобных намінацыях атрымалася адразу некалькі пераможцаў. Першыя прэміі за паэзію атрымалі Альгерд Бахарэвіч, Юры Гуменюк, Вальжына Морт, за прозу — Ігар Сідарук і Лявон Вашко.

Дзве другія намінацыі, у якіх прысуджаліся прэміі ў галіне літаратуры, — эсэ і перформанс — былі дастаткова нечаканымі. З другога боку, нечаканасць гэтая — адносная. Калі задацца пытаннем, ці было ў культуры, мастацтве, літаратуры XX стагоддзя нешта такое, што было б аб'яднаўчым для дастаткова вялікага кола з'яў, то на розум прыходзіць слова "сінтэз", якое нясе ў сабе ідэю яднання, узаемапранікнення. Таму на мяжы тысячагоддзяў актуалізуюцца такія "сінтэтычныя" жанры, як перформанс і эсэ.

На жаль, паспрабаваць сябе ў эсэістыцы рызыкнулі толькі два чалавекі. Аднак перамога Ю. Барысевіча не становіцца ад гэтага меншай — яго творы, прасякнутыя бліскучым гумарам і эрудыцыяй, на сённяшні дзень сапраўды лепшыя ў сваім жанры.

Надзвычай складана было ацаніць перформанс — ніхто з журы не адчуваў сябе дастаткова кампетэнтным у гэтай галіне мастацтва.

Крытэрыем ацэнкі стала якасць літаратурных дадаткаў, якія былі прадстаўлены перформерамі, бо, нагадаю, разглядаліся гэтыя творы па літаратурнай намінацыі. Тым не менш, перформанс "Тэатра псіхічнай неўраўнаважанасці", які стаў пераможцам, аказаўся, як высветлілася пазней, і самым відовішчным, яшчэ раз пацвердзіўшы арыстоцелеўскую думку аб непазбежнай еднасці зместу і формы.

Нельга прымяншаць і значнасць другіх прэмій, якія атрымалі С. Мінскевіч, А. Аркуш (па прозе), У. Гарачка, А. Кавалеўскі (па паэзіі). Усяго прэміямі і дыпломамі былі адзначаны працы 21 удзельніка акцыі, аднак я ўпэўнена, што нават гэтай унушальнай лічбаю не вычэрпваецца творчы патэнцыял нашай моладзі, і ў хуткім часе з'явяцца новыя бліскучыя імёны.



*Выступае Зміцер Вішнёў*

---

**Іля СІН,**
**перформер, удзельнік "Тэатра псіхічнай неўраўнаважанасці":**

— Тэатр псіхічнай неўраўнаважанасці — гэта хутчэй перформер-група, чым уласна тэатральны калектыў, хаця што да мяне, я не стаў бы поўнасцю размяжоўваць перформанс і некаторыя праявы сучаснага тэатра, як гэта шмат хто робіць.

Перформансы "Тэатра" — гэта дастаткова спантаннае і збольшага пазбаўленае прагі да самарэфлексій сцэнічнае дзеянне, якое часам можна ахарактарызаваць як выяўленне эмоцый ягоных удзельнікаў.

Шмат у якіх нашых перформансах праяўляюцца экзістэнцыяльныя праблемы; яны не асэнсоўваюцца, але перажываюцца. Дый наогул, любы рацыянальны канцэпт у нашай творчасці настолькі зацярушаны болем, дурасцю, адчаем, гульнёй, што робіцца бадай невызначальным.

Перформанс "Мармуровыя псеўдаанёлкі" з той жа оперы. Свядомасць Пацыента О. Т., а разам з ёй і свядомасць усіх прысутных, спараджае гэтых выварных стварэнняў, анёлаў, якія маюць не твар Бога (the face of God), але твар сабакі (the face of dog) — нягеглы і дурацкі сурагат, уласцівы рэлігійным уяўленням людзей, якія, самі таго не ведаючы, сталіся праз сваю ірэлігійнасць чыннікамі татальнай абсурднай сітуацыі.

Усё, што звязана з Няснай музыкай (кружэлка са свечкай на прайгравальніку, які грае нейкі рускі раманс, і раздзёўбванне гэтага самага прайгравальніка пры дапамозе малатка), з'яўляецца нязмушанай эстэтычнай гульнёй, якую наўрад ці варта нават спрабаваць апісваць.

Што да ўсёй вечарыны... Яе празмерная эклектычнасць, на маю думку, сыграла даволі кепскую службу. Непадобнасць адзін да аднаго і нават часам неспалучальнасць паміж сабой асобных ейных кампанентаў рабіла бадай немагчымым засяроджванне на нейкім з іх канкрэтна і, пагатоў, цэласнае ўспрыманне ўсёй імпрэзы. Джаз, архітэктура, класіка, рок, тэлебачанне, перформанс, авангардная паэзія, эстрада... Стамляе ўжо адзін няпоўны пералік пазіцый гэтага спіса, а ягонае шасцігадзіннае працягласці сцэнічнае ўвасабленне...

Не ведаю чаму, але самая адметная і маштабная мастацкая акцыя гэтага вечара — хэпенінг пад назвай "НамнянадавтараяНяміга", аўтары якога чамусьці не былі пазначаны ў запрашальніках, нешта мне зусім не спадабалася. Хаця, безумоўна, не можа не цешыць тое, што супрацоўнікі беларускай міліцыі пачалі выяўляць сябе ў рамках сучаснага мастацтва, прычым такім нетрадыцыйным спосабам. Але асабіста мяне, напрыклад, трохі насцярожвае чарговы недарэчны (я б нават сказаў, цынічны) зварот аўтараў хэпенінгу да гэтай па-ранейшаму балючай для ўсіх нас тэмы. "Забароненыя" ўладамі куфаль піва, які павінен быў атрымаць кожны з прысутных на "Супервобразе", і трагедыя на Нямізе — рэчы, што маюць паміж сабой не нашмат больш агульнага, чым рэальны дзядзька ў плямістай форме і той рамантычна-ўзнёслы вобраз "ахоўніка парадку", які па-ранейшаму папулярызуецца некаторымі беларускімі СМІ.

Арганізатары вечара хацелі стварыць свайго кшталту сферу вольнага самавыяўлення для "подающей надежды" моладзі. Але ім нагадалі, што... Памянуты вышэй хэпенінг не заняў прызавога месца на папярэднім конкурсе, аднак меркаванне журы і рэакцыя публікі ў дадзеным выпадку не адыгрывалі аніякай ролі.



*"Тэатр псіхічнай неўраўнаважанасці"* *Фота Алега ПАЛОЙКІ*

# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**РАМПА**

Гэтым разам мы падаём рэпертуары сталічных тэатраў на цэлы месяц наперад. Таму што часта на спектакль, які будзе толькі праз тыдзень, квіткоў не дакупіцца. А тым больш у лютым, калі чакаецца шэраг прэм'ер.

**"Вольная сцэна"**

*5 і 18 лютага* — "Містэр Розыгрыш"
*6 і 17* — "Бот і яго шкарпэтка"
*10 і 20* — "Лекар паняволі"
*11, 12 і 13* — "Стомлены д'ябал"
*16 і 27* — "Апошняя пастараль"
*19* — "Паваліўся нехта"
*23* — "Узлёт Артура Уі"
*24, 25 і 26* — адноўленая "Барбара Радзівіл"

**Оперны тэатр**

*5 лютага* — "Лючыя дзі Ламермур" Р. Даніцэці
*6* — "Вяселле Фігара" В. А. Моцарта
*8* — "Травіята" Д. Вердзі
*10* — "Паяцы" Р. Леанкавала
*12* — "Шлюбны вэксаль" Д. Расіні
*13* — "Кот у ботах" Ц. Кюі (раніцай) і "Набука" Д. Вердзі (увечары)
*15* — "Яўген Анегін" П. Чайкоўскага
*17* — "Чыо-чыо-сан" Д. Пучыні
*19* — "Севільскі цырульнік" Д. Расіні
*22* — "Пікавая дама" П. Чайкоўскага
*26* — Творчы вечар народнага артыста РБ Сяргея Картэса
*27* — "Пітэр Пэн" А. Будзько
*29* — "Аіда" Д. Вердзі

**Малы тэатр**

*15, 19 і 26 лютага* — "Камедыя" (у Доме афіцэраў)
*19 і 29* — "ART" (у ДК імя Дзяржынскага)
*26 і 27* — мюзікл паводле твораў К. Чукоўскага "Таямніцы чароўнага гарышча" (ДК Дзяржынскага)

**Тэатр-студыя кінаакцёра**

*5 і 6 лютага* — "Апошняя жанчына сеньёра Хуана"
*8* — "Тэатр збірае сяброў": творчая вечарына сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі і Расіі Сяргея Трахімёнка
*9, 10 і 11* — "Філумена Мартурана"
*12* — "Айседора. Танец кахання"
*15* — "Мілы хлус"
*17 і 18* — "Тэатр купца Япішкіна"
*19 і 20* — "Мы ідзём глядзець "Чапаева"
*22 і 23* — "Фантазіі па Гогалю"
*26 і 27* — "Выкраданне Ялены"

**Купалаўскі тэатр**

*5 лютага* — "Сон у чарадзейную ноч"
*6* — "Таполевая завея"
*7* — "Вечны Фама"
*9* — "Касцюмер"
*10* — "Піраміда "Хеопса"
*11 і 12* — "Ідылія"
*13* — "Ажаніцца — не журыцца"
*16* — "Умовы дыктуе жанчына"
*17* — "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча"
*18* — "Ромул Вялікі"
*19* — "Памінальная малітва"
*20* — "Паўлінка"
*21* — "Парфен і Аляксандра"
*23* — "Лес"
*25 і 26* — прэм'ера

**Малая сцэна Купалаўскага**

*5* — "Разбітае сэрца"
*6 і 21* — "Трыстан і Ізольда"
*9, 10, 14 і 27* — прэм'ера "Восеньская саната" І. Бергмана
*16* — "Тут жывуць людзі"
*17* — "Дагарэла свечачка"
*23* — "Крывавая Мэры"

**Рускі тэатр**

*5 лютага* — юбілейная вечарына Р. Янкоўскага
*10* — "Адзіны спадчыннік"
*11* — "Хто твой каханак, Жазефа?"
*12 і 13* — "Гамлет"
*16 і 17* — прэм'ера "Дэметрыус" Ф. Шылера
*18 і 19* — "Баляванне падчас чумы і..."
*20* — "Вар'ят і манахіня"
*23 і 24* — "Ваўкі і авечкі"
*25* — "Вольны шлюб"
*26* — "Прыцемкам"
*27* — "Раскіданае гняздо"
*29* — "Дзікунка"

**"Хрыстафор"**

*5 і 19* — "Добра сядзім"
*6, 18 і 26* — "Дзень танкіста"
*12* — "Выбранае"
*13* — "Гаворыць і паказвае..."
*20* — "Жэнефіс"

**ЭКРАН**

*12 лютага, субота* — у сядзібе ТБМ па Румянцава, 13 а 18-ай гадзіне дэманстрацыя мультфільма "Прыгажуня ў сонным лесе" (уваход — 40 руб.).

**Беларускае тэлебачанне**

*11 лютага, пятніца, 15.55* — "Сёння ў нашай хаце свята". Трансляцыя з урачыстага сходу з нагоды 60-годдзя Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці.

*12 лютага, субота, 9.30* — "Кнігазбор". Галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" Генадзь Пашкоў раскажа пра дзве новыя кнігі з серыі "Памяць" (першая — пра Гродна, другая, спецвыпуск "у чорнай вокладцы" — пра беларускіх воінаў-інтэрнацыяналістаў), а галоўны рэдактар выдавецтва "Універсітэцкае" Уладзімір Касько прадставіць "Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў" Аляксандра Сержпутоўскага. Тэмай трэцяга сюжэта стане кніга Алены Паповай "Развітанне з Радзімай".

*13 лютага, нядзеля, 11.10* — "Беларускі дом". Гэтым разам вядучы Сяргей Тарасаў прапануе тэлевандроўку па Рэчыцы з наведваннем мясцовага краязнаўчага музея; гутарку з пісьменнікам Аляксеем Ненадаўцом, аўтарам многіх кніг па гісторыі беларускіх гарадоў і мястэчак; калекцыю гадзіннікаў з Гомельскага мастацкага збору Паскевічаў.

*З 31 студзеня па 17 лютага* — у Палацы культуры ветэранаў па вул. Купалы, 21 Пасольства Францыі ў РБ ладзіць прагляд фільмаў уласна Жана-Поля Рапено і ягонага ўлюбёнага кіно. Вось што можна паглядзець на наступным тыдні:

*8 лютага* — "Дзікун", 1975 г. Рэж.: Ж.-П. Рапено. У ролях: Іў Мантан, Катрын Дэнёў.
*9* — "Вуліца Эстрапад", 1952. Рэж.: Жак Бекер.
*10* — "Палкая страсць", 1981. Рэж.: Ж.-П. Рапено.
*11* — "Мадам дэ...", 1953. Рэж.: Макс Афюльс.
*15* — "Сірано дэ Бержарак", 1990. Рэж.: Ж.-П. Рапено.
*16* — "Блукаючы агеньчык", 1963. Рэж.: Луі Маль.
*17* — "Гусар на даху", 1995. Рэж., Ж.-П. Рапено.

**КАНЦЭРТЫ**

*22 лютага* — гурт "Лепрыконсы" ў к/з "Мінск" ладзіць прэзентацыю альбома "Супер паратрупер" (кошт квіткоў — ад 1200 да 2900 рублёў). Дарэчы, менавіта гэты гурт стаў бы "Адкрыццём года" на "Рок-каранацыі", калі б не аддаў перавагу піцерскім гастролям разам з "Ляпісам".

## У Доме літаратара

**4 лютага**
Адкрыты ўрок у бібліятэцы СБП. Да 80-годдзя М. Аўрамчыка.
**9 лютага**
Адкрыты ўрок у бібліятэцы СБП. Да 70-годдзя В. Тараса.
**10 лютага**
Літаратурнае аб'яднанне "Натхненне" пры рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў вайны і працы абмяркоўвае творы пачаткоўцаў.
**14 лютага**
Пасяджэнне бюро секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва. (Абмеркаванне творчасці Яўгена Калашнікава.)
**16 лютага**
Адкрыты ўрок у бібліятэцы СБП. Да 75-годдзя І. Навуменкі.
**17 лютага**
Пераклады са славянскай паэзіі Н. Гілевіча. Вялікая зала.
**22 лютага**
Пасяджэнне секцыі перакладаў.
**24 лютага**
Уручэнне Літаратурных прэмій Саюза беларускіх пісьменнікаў. Вялікая зала.
**25 лютага**
Пасяджэнне секцыі драматургіі "Сучасная дзіцячая драматургія, яе набыткі і праблі".
**28 лютага**
Адкрыты ўрок у бібліятэцы СБП. Сучасная беларуская літаратура з пункту гледжання П. Васючэнкі.

●

Сумеснае пасяджэнне секцыі крытыкі і прозы. Сацыяльныя аспекты "Сучаснай беларускай прозы".

## Беларускі калегіум

*запрашае*

**8 лютага**
Прэзентацыя "Найноўшага філасоўскага слоўніка" з удзелам сяброў рэдакцыйнай калегіі А. Грыцанава, М. Мажэйкі, В. Абушэнкі, Т. Румянцавай, В. Мацкевіча і аўтараў кнігі.
**15 лютага**
Прэзентацыя часопіса "Студэнцкая думка" з удзелам галоўнага рэдактара Ірыны Віданавай і супрацоўнікаў часопіса.
**22 лютага**
Лекцыя "Лацінаамерыканская "філасофія вызвалення".
**29 лютага**
Прэзентацыя часопіса "Беларускі гістарычны агляд" з удзелам галоўнага рэдактара Генадзя Сагановіча і аўтараў выдання.

**Мерапрыемствы адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16).**
***Пачатак у 18.30.***

## Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

*аб'яўляе конкурс*

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага саставу (для тых, хто мае мінскую прапіску):**
*кафедра харэаграфіі*
**прафесар — 1**

*Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання. Заявы і дакументы накіроўваць на імя рэктара па адрасе: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.*
***Даведкі па тэлефонах: 227-49-42; 226-06-70.***

## Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва

**рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне жывапісцаў, графікаў, скульптараў, мастацтвазнаўцаў і рэстаўратараў**

*аб'яўляе выбары*

правадзейных сяброў (акадэмікаў) на вакантныя месцы па пералічаных спецыяльнасцях.

*Тэрмін падачы дакументаў — адзін месяц з дня апублікавання гэтай абвесткі. Звяртацца да галоўнага вучонага сакратара. Тэл. 239-32-45.*

Анатоль ЗЭКАЎ

# Не казкі пра Сашку

### Яблычная кампанія

— У Сашы быў адзін яблык. Затым ёй далі яшчэ адзін. Колькі яблыкаў стала цяпер у Сашы? — пытае маці.

— Два.

— А колькі яблыкаў будзе ў Сашы, калі ёй дадуць яшчэ адзін?

Дзяўчынка на хвілінку задумваецца (як бачна, лічыць), а потым выпальвае:

— Цэлая кампанія!

### Песні для грыбоў

Сашка і тата пайшлі ў грыбы. Ходзяць па лесе, але нічога не знаходзяць.

— Давай заспяваем, — прапануе тата.

— Навошта? — цікавіцца Сашка.

— Грыбы пачуюць песню і выглянуць з-пад лісця.

Заспявалі — і тут жа натрапілі на белы грыб. Але далей зноў не шанцуе.

— Давай гучней спяваць, — на гэты раз прапануе Сашка.

— Гэта для чаго? — пытае тата.

— Каб грыбам лепш чуваць было.

### Рукі ў штаны!

Сашка, паглядзеўшы з сястрычкай Надзяй баявік, узяла ў рукі швабру і наставіла на бабулю:

— Не рухацца. Рукі ў штаны!

### Чыя кухня?

Сашка, маці, тата і бабуля сядзяць на кухні.

— Гэтая кухня мая, матуліна і бабуліна, — тлумачыць Сашка.

— А мая? — цікавіцца тата.

— Твая — не, — адказвае дачка.

— А што ж тады маё?

— Твая — канапа.

### Якім бывае холад

Сашка суне рукі пад кран, адкуль струменіць халодная вада.

— Не трэба, дачушка, — просіць тата, — а то ручкі змерзнуць.

— Гэта вадзяны холад? — пытае дзяўчынка.

— Вадзяны, — пагаджаецца тата.

— А калі я гуляла з бабуляй на вуліцы, там быў ветраны холад, — тлумачыць Сашка і дадае: — А яшчэ ёсць марозны...

### Цёмны танец

Калі Сашка з татам і мамай былі ў доме адпачынку, то хадзілі на дыскатэку, дзе ў цёмнай зале іграла святламузыка.

Прыехаўшы дадому, неяк увечары дачка пытае:

— Мам, а дзе наш ліхтарык?

— Навошта ён табе? — цікавіцца маці.

— Дай тату, няхай свеціць, — тлумачыць Сашка. — А мы з табой будзем танцаваць цёмны танец, — і выключае святло.

### Цёплыя дзірачкі

— Куды гэта ты збіраешся? — цікавіцца бабуля ў Сашкі, якая ўжо апранула паліто, а цяпер нацягвае на галаву шапачку.

— На вуліцу.

— На мароз у летняй шапачцы? — здзіўляецца бабуля.

— Чаму яна летняя?

— А ты зірні, колькі ў ёй дзірачак!

— Дык гэта ж, бабуля, цёплыя дзірачкі.

### Хто хутчэй?

Каб падахвоціць Сашку да яды, бабуля кажа:

— Вунь у таты дзве бульбіны і ў цябе столькі ж. Але, калі ты будзеш так вяла есці, тата цябе апярэдзіць.

Сашка перакладвае бульбіну са сваёй талеркі на татаву і задаволена ўсміхаецца:

— Цяпер не апярэдзіць.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 3.02.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 590

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12